# КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ І КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў
і Беларускага таварыства дружбы і культурнай
сувязі з замежнымі краінамі

## ЗМЕСТ



• № 2–3 (38–39) • ЛЮТЫ-САКАВІК • 1999 • МІНСК • БЕЛАРУСЬ •

Заснавальнікі:
**Міжнародная асацыяцыя беларусістаў,**
**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі**



Адрас рэдакцыі:
**Рэспубліка Беларусь, 220050, Мінск,**
**вул. Рэвалюцыйная, 15, Камітэт МАБ**

Тэлефон: **+375 (017) 220 76 04**
Факс: **+375 (017) 220 93 50**

E-mail:
**mab@lingvo.minsk.by**

Электронны варыянт у InterNet:
**http://www.lingvo.minsk.by/mab/k&d.html**

*На першай старонцы вокладкі —*
**Вострая Брама ў Вільні (Вільнюсе) успетая Максімам Багдановічам.**
**Матэрыялы пра беларуска-літоўскае ўзаемадзеянне**
**— на стар. 11–16, 19–22, 27, 31, 37–40, 46, 53.**

Бюлетэнь выдаецца і высылаецца толькі тым сябрам МАБ, якія ўнеслі складкі.

Памер складак у месяц (з 1998 г.): у Беларусі — **120 тысяч рублёў**, у краінах СНД — **2 USD**, Цэнтральнай Еўропы — **3 USD**, Заходняй Еўропы, Азіі, на іншых кантынентах — **5 USD**.

Перыядычнасць выхаду — **1 нумар у месяц**.

Мовы выдання — беларуская і ў перспектыве — англійская, руская.

Паведамленні аб уплаце складак просім дасылаць на адрас рэдакцыі.

Складкі просім пераводзіць аднаму з заснавальнікаў бюлетэня — **Камітэту Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**

Банкаўскія рахункі:
**рублёвы — 3015205833015**
**у філіяле “Акадэмічны” КБ “Поиск”, г. Мінск, код 730;**
**валютны — 3015000005287**
**у Мінскім абласным упраўленні АСБ “Беларусбанк” г. Мінска, код 807.**

*Васіль Пуцко (Калуга)*

## ПРАБЛЕМЫ СЯРЭДНЕВЯКОВАЙ МАСТАЦКАЙ СПАДЧЫНЫ БЕЛАРУСІ

**Васіль Пуцко** — кандыдат мастацтвазнаўства, намеснік дырэктара Калужскага мастацкага музея. Аўтар прац па гісторыі ўсходнеславянскага мастацтва.

Духоўная культура эпохі сярэдневякоўя была пераважна гарадской, і гэта яскрава выяўляецца ў развіцці мастацтва як візантыйскай, так і заходняй традыцый. У межах Беларусі на працягу стагоддзяў яны сустракаліся, судакраналіся амаль пастаянна, аднак пры гэтым толькі спарадычна ўступалі ва ўзаемадзеянне. Для апошняга былі неабходны пэўныя гістарычныя перадумовы, якія з'явіліся адносна позна — у перыяд развіцця беларускай готыкі. У больш ранні час можна заўважыць толькі пранікненне асобных элементаў і матываў, якія ў цэлым не маглі, натуральна, змяніць агульны візантынізуючы характар мастацтва рэгіёна, пераважна сакральнага.

Асноўныя культурныя арыенціры Смаленскага княства і Полацка-Віцебскай зямлі былі абумоўлены шырокімі палітычнымі і царкоўнымі сувязямі з Кіевам, а праз яго (а часам і непасрэдна) — і з Візантыяй; заходні мастацкі імпарт быў прадстаўлены ў асноўным свецкімі рэчамі (1). Прынамсі, пытанне аб адносным ураўнаважванні візантыйскіх і раманскіх уплываў уяўляецца даволі праблематычным (2). У нейкім сэнсе паралельныя намаганні візантыйскіх і раманскіх місіянераў па распаўсюджванню хрысціянства ў гэтым рэгіёне ні ў якім разе яшчэ не дапускаюць аднолькавых слядоў іх дзейнасці, арэчаўленых у царкоўным будаўніцтве. А менавіта ж яны складаюць аснову мастацкай спадчыны цікавячага нас перыяду, якую дапаўняюць сценапіс, узоры кнігапісання і мастацкіх рамёстваў. І, натуральна, уяўляецца магчымым аналізаваць толькі гэты матэрыял, атрыманы ў асноўным у выніку шматгадовых археалагічных даследаванняў. Таму, вывучаючы канкрэтныя помнікі, даводзіцца хутчэй угадваць дынаміку мастацкага працэсу, зафіксаваную толькі часткова.

Па пісьмовых крыніцах у Беларусі вядома больш за 30 гарадоў, якія ўзніклі або існавалі ў IX–XIII стст., аднак вывучэнне іх планавай структуры застаецца справай будучыні (3). Сучасныя ўяўленні аб архітэктурным абліччы нават самых буйных з гэтых гарадоў знаходзяцца ў прамой залежнасці ад вынікаў археалагічнага вывучэння, якія дазваляюць увесці ў навуковы ўжытак новыя матэрыялы, што адлюстроўваюць гістарычныя працэсы, развіццё дойлідства, мастацкіх рамёстваў (4). Такім чынам, на сённяшні дзень гарадская культура з усімі яе праяўленнямі можа быць прадстаўлена калі і не вычарпальна, то ўсё ж даволі шырока і з улікам шматлікіх і разнастайных рэчавых знаходак.

Сістэматызацыя матэрыялу непазбежна павінна была паставіць пытанне аб генэзісе і аб культурным кантэксце. Механізм выкарыстання візантыйскай спадчыны ніяк не прадугледжваў простага перанясення на новую глебу схем і канструкцый, якія атрымалі развіццё на Хрысціянскім Усходзе, без уліку мясцовых матэрыялаў і ўмоў заказу (5). Таму далёкі тыпалагічны ўзор у архітэктуры вызначаў хутчэй агульны напрамак і стылістычную прыроду формаў. У гэтым сэнсе ў адносінах да Тураўскай і Полацкай зямель (таксама як і Беларускага Панямоння) застаецца відавочнай пасрэдніцкая роля Кіева, дзе грэчаскія кадры майстроў пакінулі больш значныя сляды сваёй будаўнічай дзейнасці (6). Як бы там ні было, але к сярэдзіне XII ст. мясцовыя асаблівасці полацкага будаўніцтва (найперш сакральнага) праяўляюцца даволі ярка. Шлях ад засваення да радыкальнай перапрацоўкі візантыйска-кіеўскага ўзору па сутнасці аказаўся гранічна сціслым.

Полацк з’яўляецца адзіным горадам на тэрыторыі Беларусі, у якім найбольш поўна адлюстравалася своеасаблівасць культурнага развіцця цэлага рэгіёна ў перыяд сярэднявякоўя і які на працягу даволі вялікага часу быў аб’ектам археалагічнага даследавання (7). Выключна важнае значэнне мае Полацкі Сафійскі сабор, узведзены ў сярэдзіне XI ст., — ён у некалькі спрошчаным выглядзе паўтарае планавую схему Кіеўскай Сафіі (8). Ён быў пабудаваны кіеўскімі майстрамі, і ўжо таму крайне праблематычным выглядае суаднясенне гэтай пабудовы з купальнай трохнэфнай базілікай з трансэптам, перабудаванай пры архіепіскапе Льве (1037–1056) (9). Царква св. Сафіі ў Ахрыдзе ўяўляе сабой тыпова візантыйскую пабудову архаізуючага тыпу, тады як дойлідства Кіеўскай Русі было першапачаткова арыентавана на канстанцінопальскую традыцыю. Паўторна кіеўскія майстры-будаўнікі з’явіліся ў Полацку ў другой чвэрці XII ст. і прымалі ўдзел ва ўзвядзенні Вялікага сабора Бельчыцкага манастыра, пасля якога былі яшчэ пабудаваны храм-усыпальніца ў Ефрасіннеўскім манастыры і царква на Ніжнім замку, а ў 1150-х гг. пабудавана Спаская царква ў Ефрасіннеўскім манастыры майстрам Іаанам, які стварыў зусім новы архітэктурны вобраз стоўпападобнага храма (10). Благавешчанская царква ў Віцебску (1140-я гг.) сведчыць, што і пры наяўнасці сваіх будаўнічых кадраў у Полацкай зямлі працягвалі карыстацца паслугамі прыезджых майстроў, якія, як высвятляецца, узвялі і царкву Барыса і Глеба ў Навагрудку.

У другой палове XII ст. выразна акрэсліваецца і лакальная будаўнічая традыцыя ў Гродне, дзе ў гэты час былі пабудаваны Ніжняя царква ў цэнтры дзяцінца і Барысаглебская царква (больш вядомая як Каложская), а таксама пасадская Прачысценская царква і сцяна на мысу (11). Такім чынам, на працягу XII ст. вызначыліся ўсе рэгіянальныя асаблівасці, што адрознівалі царкоўнае будаўніцтва Полацкай зямлі і Панямоння і маглі паслужыць асновай развіцця архітэктуры Беларусі.

Відаць, іншым было становішча ў манументальным жывапісе, які на сённяшні дзень прадстаўлены толькі фрагментамі фрэсак Сафійскага сабора ў Полацку, а таксама страчанымі сценапісамі Пятніцкай царквы і Вялікага сабора

Бельчыцкага манастыра і роспісамі Спаскай царквы ў Ефрасіннеўскім манастыры (яны знаходзяцца зараз у працэсе рэстаўрацыйнага раскрыцця). Для выканання жывапіснага дэкору цэркваў часцей за ўсё запрашалі кваліфікаваных візантыйскіх мастакоў, прычым выключэнні тут былі вельмі рэдкія. Тэзіс аб раннім існаванні ўласных арцелей майстроў-сценапісцаў робіць незразумелым поўнае знікненне фрэсак у перыяды аслаблення або страты сувязей з Візантыяй. Аналізу полацкіх сценапісаў нярэдка папярэднічалі высновы, па сутнасці не суаднесеныя з рэальным становішчам рэчаў. Таму можна зразумець асцярожную і ўзважаную пазіцыю, занятую М. Шчакаціхіным у адносінах да дэталёва даследаваных ім фрэсак Бельчыцкага манастыра (12). Пакуль заўчасна рабіць заключэнні адносна роспісаў Спаскай царквы, хаця іканаграфія і стыль указваюць не толькі на грэчаскіх майстроў, але і на пэўнае кола крыніц (асабліва цыкла сцэн, ілюструючага жыцие Ефрасінні Полацкай). Аднак прыезджым мастакам прыходзілася (як і дойлідам) улічваць мясцовыя ўмовы. У апошнім выпадку гэта выяўлялася ва ўзгадненні жывапісу з архітэктурнымі формамі храма, што заўважна адрознівалася ад уласна візантыйскага. Між іншым, у агульнай сістэме роспісаў няма сур’ёзных разыходжанняў.



*Полацк. Спаса-Ефрасінеўская царква.*
*Галоўны фасад*

Незаменную страту ўяўляе сабой гібель старажытных ікон, якія адсутнічаюць нават у больш позніх спісах, і толькі ў адзінкавых выпадках аб некаторых іканаграфічных абразах можна меркаваць па ўзнаўленнях на свінцовых пячатках (13). Прычым гэтыя выявы мелі яўна візантынізуючы характар.

Падкрэсліванне ролі Візантыі магло б паказацца тэндэнцыйным і неапраўданым, калі б яно не абапіралася на дадзеныя мастацкага імпарту з Полацкай і Тураўскай зямель, а таксама Чорнай Русі (Панямоння) (14). Прычым прадметамі ўвозу з’яўляліся не толькі амфары, але і тонкасценныя шкляныя пасудзіны, распісаныя золатам (часам у спалучэнні з белай, жоўтай ці чырвонай эмаллю), каменныя іконкі і ліцік. Мастацкае рамяство Полацкай зямлі становіцца больш зразумелым менавіта з улікам гэтага фактару (15). Адначасова ўзнікае пытанне і аб мясцовых перайманнях, якія часам даволі моцна нагадваюць творы візантыйскіх майстроў, зробленыя імі ў пачатку XIII ст. на Русі (16). У гэтым кантэксце атрымліваюць сваё вытлумачэнне і “раманскія” рысы асобных узораў каменнай разьбы, стылістычныя паралелі якім можна знайсці ў канстанцінопальскай пластыцы рубяжа XII–XIII стст.

Стылістычныя рысы большай часткі археалагічных знаходак, якія ўяўляюць сабой узоры мастацкага рамяства XI–XIII стст. на тэрыторыі Беларусі, вызначаюцца спалучэннем лакальных традыцый дахрысціянскага перыяду і ўздзеяннямі "моды" (пераважна дзякуючы візантыйскаму і кіеўскаму імпарту). У прыватнасці, гэта можна прасачыць у ювелірных упрыгожаннях, па захаваўшыхся рэчах і па каменных ліцейных формах. Зразумела, гаворка не ідзе аб такіх шэдэўрах, як знакаміты твор Лазара Богшы — узвіжальны крыж Ефрасінні Полацкай 1161 г., які адлюстроўвае дасягненні культуры сваёй эпохі. З Кіева ўвозілі і прадметы бронзавага мастацкага ліцця, у асноўным крыжы-энкалпіёны, частка якіх вядома ў капійных адліўках (17). Адзін з энкалпіёнаў візантыйска-кіеўскага тыпу з 1182 г. атрымаў вядомасць як цудадзейная ікона Божай Маці, выява якой знаходзіцца на ніжняй створцы вырабу (18).

Дасягненні любой мастацкай культуры прынята вызначаць па яе элітарных праявах. У дадзеным выпадку яны навідавоку, як і сведчанні цеснай сувязі рэгіёна з буйнымі культурнымі цэнтрамі візантыйскага арэала. Вытанчаныя, індывідуальна выкананыя творы мастацкага рамяства не маглі мець масавага характару, гэтаксама як і архітэктурныя пабудовы са сценапісамі. Таму не варта здзіўляцца малалікасці, скажам, каменных іконак або вырабаў з каштоўных металаў, такіх, як пярсцёнкі. Зусім натуральным з'яўляецца і толькі частковае засваенне гэтых узораў майстрамі, прадукцыя якіх была прызначана для дэмакратычнага асяродка, дзе пераважалі іншыя эстэтычныя густы.

Адзначаныя тэндэнцыі канчаткова аформіліся к пачатку XIII ст. і, здавалася, наперадзе быў час росквіту. Бо менавіта XIII ст. стала часам станаўлення еўрапейскіх нацыянальных культур. Але Усходнюю Еўропу спасцігла мангола-татарскае нашэсце, што прывяло да знікнення мясцовых мастацкіх цэнтраў. У выніку лёс культурнай традыцыі, сфарміраванай на працягу XI – першай трэці XIII ст., аказаўся пад пагрозай. Ускосна адбіліся і палітычныя падзеі ў Міжземнамор'і: захоп Канстанцінопаля крыжакамі ў 1204 г. і ўзнікненне на візантыйскай тэрыторыі Лацінскай імперыі спачатку выклікалі з'яўленне ў Кіеве і іншых рускіх землях грэчаскіх майстроў. Аднак іх разрозненыя намаганні аказаліся яўна не раўназначнымі тым імпульсам, якія раней упарадкавана ішлі з Візантыі. Гэтага аказалася дастаткова, каб зламаць толькі што сфарміраваную на мясцовым узроўні традыцыю, якая падпітвалася дасягненнямі буйных цэнтраў, абслугоўваючых сацыяльную і палітычную эліту. І мастацкая спадчына былой эпохі нечакана страціла сваю прыцягальнасць, ператварыўшыся ў свайго роду антыкварыят. Гэты вывад можна пацвердзіць шэрагам канкрэтных прыкладаў.

Новыя павевы выяўляюцца найперш ў дойлідстве. З'яўляюцца высокія каменныя вартавыя вежы тыпу заходнееўрапейскіх данжонаў, такія, як Камянецкі слуп, узведзены майстрам Алексам па волі валынскага князя Уладзіміра Васількавіча паміж 1276–1288 гг. або "стоўп" у Гродне, будаўніцтва якога адзначана ў Іпацьеўскім летапісе пад 1277 г. Пачынаецца ўзвядзенне мураваных замкаў, якое расцягнулася на некалькі стагоддзяў (19). І хаця цэрквы большай часткай захоўваюць традыцыйную планавую схему, аднак ужо на памежжы XIII–XIV стст.

прыкметна мяняецца іх знешні выгляд, як аб тым дазваляюць меркаваць матэрыялы археалагічнага вывучэння Верхняй царквы Старога замка ў Гродне і царквы Навагрудскага замка (20). У гэтым працэсе ўзмацнення ўздзеянняў заходніх мастацкіх стыляў адыграла сваю ролю пранікненне ў рэгіён каталіцызму, што прывяло да ўтварэння ў 1387 г. Віленскай епархіі. Сінтэз старажытнарускіх і гатычных будаўнічых традыцый, як вядома, найбольш ярка выявіўся ў чатырохвежавых храмах Сынкавічаў, Маламажэйкава (Мураванкі) і Супрасля. Адным словам, візантыйска-кіеўская мастацкая спадчына ў яе лакальным варыянце паслядоўна адаптавалася готыкай, а пазней і мастацтвам Рэнесанса (21). Гатычны стыль прасачыўся таксама ў праваслаўныя царкоўныя рэчы, аб чым сведчаць паціры XV–XVI стст. з Петрапаўлаўскай царквы ў Ружанах, Барысаглебскай царквы ў Навагрудку і Слуцкага Троіцкага манастыра, пры гэтым апошні з’яўляецца своеасаблівым укладам князя Юрыя Алелькі ў 1580 г.



*Барысаглебская (Каложская) царква. Літаграфія з акварэлі Н. Орды. XIX ст.*

Сярэдневяковая мастацкая спадчына найбольш працяглы час магла вызначаць аблічча драўлянага храма. Аднак гэтае палажэнне цяжка праверыць, паколькі, напрыклад, на Палессі вядомы толькі позні я сакральныя пабудовы, якія ў значнай ступені ўвабралі ў сябе элементы заходніх стыляў (22). Застаецца, аднак, спадзявацца, што вопыт назапашвання археалагічных дадзеных аб драўляных храмах прывядзе да вынікаў, аналагічных ужо зробленым (23). Тым больш што рэшткі такіх пабудоў ужо выяўлены на мінскім замчышчы і пры раскопках старажытнага Мсціслава (24). Іконы, якія захаваліся ў Беларусі, адносяцца не пазней чым да XIV–XV стст. і ў той ці іншай меры адзначаны ўплывамі візантыйскага мастацтва эпохі Палеалогаў, як і ўкраінскі іканапіс перыяду станаўлення нацыянальных традыцый.

У адрозненне ад католікаў, праваслаўнае насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага кожны раз дэкларавала прыхільнасць да ўсяго, што было атрымана ў спадчыну ад Візантыі. У пытаннях веравучэння гэта цалкам адпавядала рэчаіснасці, тады як у плане мастацкага развіцця паспеў адбыцца дастаткова рэзкі паварот у бок Захаду. І, значыць, ідэйная пазіцыя яўна не супадала з рэчаіснасцю, якая аказалася мацней абаяння напаўзабытых старажытнасцей.

*Пераклад з рускай мовы* ***Эдуарда Дубянецкага***

(1) Пуцко В. Аб еўрапейскім кантэксце сярэдневяковага мастацтва Беларусі // Беларусіка=Albaruthenica. Мн., 1993. Кн. 1. С. 301–307; яго ж. Культура сярэдневяковай Беларусі паміж Візантыяй і Захадам: Вынікі і праблемы вывучэння // Кантакты і дыялогі. 1997. № 4. С. 3–9.

(2) Ганецкая І. Культура Полацкай зямлі: заходнія і ўсходнія ўплывы // Полацк: Карані нашага радавода. Полацкая зямля як сацыякультурная прастора ўзнікнення і развіцця беларускага этнасу і нацыянальнай дзяржаўнасці. Полацк, 1996. С. 41–44.

(3) Штыхов Г. В. Киев и древние города Белоруссии // Древнерусское государство и славяне / Материалы симпозиума, посвящ. 1500-летию Киева. Минск, 1983. С. 55–57.

(4) Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX–XIII вв. М., 1966; Лысенко П. Ф. Города Туровской земли. Минск, 1974; Гуревич Ф. Д. Древние города Понеманья и южнорусские земли в конце X–XIII вв. // Средневековая Русь. М., 1976. С. 25–29; Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX–XIII вв.). Минск, 1978.

(5) Пуцко В. Г. Византия и становление искусства Киевской Руси // Южная Русь и Византия. Киев, 1991. С. 79–99; яго ж. Византийские элементы в истоках культуры русского народа (у друку).

(6) Киев и Западные земли Руси в IX–XIII вв. Минск, 1982; Штыхов Г. В. Киев и города Полоцкой земли. С. 45–80; Лысенко П. Ф. Киев и Туровская земля. С. 81–108; Зверуго Я. Г. Киев и земли Белорусского Понемонья. С. 109–125.

(7) Штыхов Г. В. Древний Полоцк (IX–XIII вв.). Минск, 1975.

(8) Раппопорт П. А. Зодчество Древней Руси. Л., 1986; Комеч А. И. Древнерусское зодчество конца X – начала XII в.: Византийское наследие и становление самостоятельной традиции. М., 1987. С. 254–257.

(9) Бошкович Дж. Архитектура средньег века. 4-то изд. Београд, 1976. С. 133–134. Сл. 170, 171.

(10) Раппопорт П. А. Зодчество Древней Руси. С. 80–88.

(11) Трусаў А. А. Гродзенская архітэктурная школа // Проблемы славянской археологии / Труды VI Международного Конгресса славянской археологии. М., 1997. Т. 1. С. 327–333.

(12) Шчакаціхін М. Фрэскі Полацкага Барысаглебскага манастыра // Наш край. 1925. № 1. С.18–27.

(13) Пуцко В. Аб іконе Багамацеры Эфескай у старажытным Полацку // Полацак. 1991. № 8. С. 16–20; яго ж. Печать преподобной Евфросинии Полоцкой // Беларусь у сістэме еўрапейскіх культурных сувязяў / Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1997. № 11. С. 105–110.

(14) Гуревич Ф. Д. Византийский импорт в городах Западной Руси в XII–XIII вв. // Византийский временник. 1986. Т. 47. С. 65–81.

(15) Пуцко В. Г. Художественное ремесло Полоцкой земли (находки, явления, нерешенные проблемы) // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1997. № 12. С. 195–206.

(16) Пуцко В. Г. Византийские мастера в XIII в. на Руси // Byzantinorussica. 1994. № 1. С. 83–89; яго ж. Константинополь и киевская пластика на рубеже XII–XIII вв. // Byzantinoslavica. 1996. Т. 57. С. 376–390; яго ж. Художественное ремесло Киева начала XIII в. (по данным археологических находок) // Проблемы славянской археологии. С. 315–326.

(17) Алексеев Л. В. Мелкое художественное литье из некоторых западнорусских земель (кресты и иконки Белоруссии) // Советская археология. 1974. № 3. С. 204–219.

(18) Пуцко В. Київський енколпіон — Куп’ятицька ікона Богородиці // Людина і світ. 1996. № 1–2. С. 21–24.

(19) Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст. Мн., 1978; Яго ж. Замкі і людзі. Мн., 1991.

(20) Трусов О. А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI–XVII вв. Минск, 1988. С. 50–53.
(21) Пуцко В. Візантійсько-київська спадщина в культурному розвитку Великого князівства Литовського // Наш радавод. Гродна, 1996. Кн. 7. С. 195–198; яго ж. Сакральное искусство Беларуси XV–XVI вв. и европейские художественные стили. // Русь – Литва – Беларусь: Проблемы национального самосознания в историографии и культурологии. М., 1977. С. 73–81.
(22) Якімовіч Ю. А. Драўлянае дойлідства беларускага Палесся XVII–XIX стст. Мн., 1978. С. 82–136.
(23) Иоаннисян О. М. Деревянные храмы домонгольской Руси // Успенская церковь в Кондопоге. Кондопога; СПб., 1994–1996. С. 4–46.
(24) Алексеев Л. В. Проблема становления культово-оборонного зодчества Руси в свете раскопок в Мстиславле // Российская археология. 1993. № 4. С. 217–237.

***Алесь Баркоўскі (Якуцк)***

## ПРА МЕСЦА НАРАДЖЭННЯ АЛЕСЯ ГАРУНА І РОД ПРУШЫНСКІХ

Выдатны беларускі паэт Алесь Гарун (Аляксандр Прушынскі) нарадзіўся, як сведчыць выпіска з метрыкі, што захавалася ў яго судовай справе, 27 лютага 1887 г. у вёсцы Новы Двор Мінска-Кальварыйскай парафіі, а 28 лютага ён быў ужо ахрышчаны ў Мінска-Кальварыйскім касцёле (1). Максім Гарэцкі, які асабіста ведаў Алеся Гаруна, пісаў у “Гісторыі беларускае літаратуры”, што “паэт нарадзіўся 27 лютага 1887 г. (ст. ст.) у Менску, на Багадзельнай вуліцы, у сям’і чорнарабочага” (2). Даследчык Ю. Гарбінскі дадае, што звесткі засноўваюцца на “аўтабіяграфіі, якая па просьбе М. Гарэцкага была напісана для “Гісторыі беларускае літаратуры” (3). Далей М. Гарэцкі піша, што бацька Алеся Гаруна “Валадзімір Прушынскі і маці Зофія (з роду Жывіца) былі тыповыя прадстаўнікі працоўнай простанароднай грамады менскіх беларусаў-католікаў, спрадвечных жыцельнікаў места” (4). Згодна ж з існуючымі тагачаснымі законамі Расійскай імперыі Уладзімір Каятанавіч Прушынскі быў прыпісаны да сялян вёскі Падстарынне Даргабыльскай сельскай грамады Сталовіцкай воласці Навагрудскага павета Мінскай губерні (5), хаця сам стала жыў ды працаваў “дворнікам у Менску” (6). Да сялян той жа вёскі з цягам часу быў прыпісаны і Алесь Прушынскі. А Леанід Акаловіч, які даследуе генеалогію беларускай шляхты, лічыць, што бацькі паэта мелі шляхецкае паходжанне (7).

У сувязі са сказаным цікавасць мае наступная звестка з выдання “Nasze kościoły”: “Новы Двор, вёска на рацэ Свіслач, мураваны касцёл пабудаваны Прушынскімі ў 1792 годзе, цяпер ён перароблены ў царкву” (8). Пэўна, паселішча Новы Двор было радавым гняздом збяднелых і пазбаўленых шляхецкай годнасці шляхціцаў Прушынскіх, таму і пры хрышчэнні ў Мінска-Кальварыйскім касцёле маленькаму Алесю Прушынскаму месцам нараджэння запісалі вёску Новы Двор. Дарэчы, тое ж самае назіраецца ў метрычных запісах вядомых дзеячаў Іваноўскіх. “Неадпаведнасць з фактычным становішчам спраў ад-

бывалася галоўным чынам з-за традыцыі, згодна з якой не часовае месцажыхарства бацькоў, а фамільнае гняздо вызначала месца нараджэння дзяцей", — зазначае Юрый Туронак (9).

Нагадаем яшчэ, што род Прушынскіх даў свету шмат таленавітых людзей. Гэтак Конрад Прушынскі (1851–1908), які нарадзіўся ў Мінску, куды ягоныя продкі перасяліліся з Прушэнкі-Бранскай (Падляссе), родавага маёнтка ўсіх Прушынскіх, быў вядомым публіцыстам і рэдактарам (10). Адзін яго сын — Казімір (1875–1945), які загінуў у Матхаўзене, вызначыўся ў кінематаграфіі, у час вучобы ў Льежы ён сканструяваў адзін з першых кінаапаратаў, а другі — Тадэвуш Анастазы (1873–1925) быў публіцыстам (11). Канстанцін Прушынскі (1859–1936), які нарадзіўся ў вёсцы Устрань, што пад Слуцкам, стаў славутым батанікам, а яго сын Казімір (1901–1944), што нарадзіўся ў Мінску, быў вядомым архітэктарам, каланізатарам у Конга, а таксама публіцыстам (12). Прот Фелікс Прушынскі (1799–1849) з Малой Лучосы быў удзельнікам паўстання, а потым служыў палкоўнікам у бельгійскім войску (13). Нeяк, некалькі год назад, на пасяджэнні Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", галоўны бібліёграф, тады яшчэ Урадавай бібліятэкі Беларусі, Валерый Герасімаў задаў шумна вядомаму графу Аляксандру Прушынскаму, былому прэтэндэнту ў прэзідэнты Беларусі, які выдаваў у Таронта газету "Expres Polski" (14), пытанне наконт сваяцкіх адносін з Алесем Гаруном, на што граф адказаў, што хоць яны з Гаруном і не сваякі, але аднаго з ім герба. Бацька ж графа, Ксаверы Прушынскі, быў прэс-аташэ ў СССР (1941–1942) ад польскага ўрада ў Лондане, рэдактарам штотыднёвіка "Polska", аўтарам кнігі "Noc na Kremlu".

**Алесь Баркоўскі** — гісторык, краязнаўца, выдавец. Даследуе лёсы беларусаў у Якуціі.

(1) Гл.: Казбярук У. Церневыя і лаўравыя вянкі Алеся Гаруна // Гарун А. Сэрцам пачуты звон: Паэзія, проза, драматургія, публіцыстыка. Мн., 1991. С. 5.
(2) Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920, С. 186.
(3) Гарбінскі Ю. Дар Алеся Гаруна // Беларуская мова і літаратура ў школе. 1991. № 1. С. 47.
(4) Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. С. 186.
(5) Гарбінскі Ю. Народу на алтар свой дыямент прынёс… Гарун: 1887–1920 // Вяртання маўклівая споведзь: Постаці творцаў беларускай гісторыі ў кантэксце часу. Мн., 1994. С. 129.
(6) Шыла М. Алесь Гарун // Шыпшына (Саўт-Рывер). 1950. № 9. С. 37.
(7) Вяртання маўклівая споведзь. С. 129.
(8) Nasze kościoły: Diecezja Mińska / Pod red. ks. Józefata Żyskara. [B. m.], 1912. S. 164.
(9) Туронок Ю. Ваша национальность? // Нёман. 1992. № 12. С. 161.
(10) Polski Słownik Biograficzny. Wrocław etc., 1985. T. 28. Z. 3. S. 565.
(11) Тамсама. С. 574.
(12) Тамсама. С. 563.
(13) Тамсама. С. 570.
(14) Прушынскі А. Беларусь я ніколі не пакідаў // Наша слова. 1995. 4 студз.

*Уладзімір Свяжынскі (Мінск)*

# БАЛТЫ І БАЛЦКІЯ ГАВОРКІ Ў СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСІ

**Уладзімір Свяжынскі** — кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Аўтар прац па гісторыі Беларусі і беларускай мовы.

Мяркуючы па мове і іншых этнаграфічных прыкметах, балты належаць да індаеўрапейскіх народаў. У той час як мовы іншых індаеўрапейскіх народаў далёка адышлі ў сваім развіцці ад сваёй прамаці — праіндаеўрапейскай мовы, мовы балтаў захавалі ў сваёй граматыцы, лексіцы амаль усе асаблівасці індаеўрапейскай мовы. На думку вучоных, гэтаму садзейнічаў прыродны фактар: балты, асеўшы на доўгі час сярод пушчаў і балот, як бы захаваліся тут ад культурна-гістарычнага руху і ад культурных уплываў. Гэта значыць, як і ў любым іншым выпадку, тэрытарыяльныя дыялекты былі народжаны прасторавай, геаграфічнай раз'яднанасцю народа (1).

На тэрыторыі Беларусі ў Сярэднім і Верхнім Падняпроўі (сучасныя Гомельская і Магілёўская вобласці, усход Брэсцкай, поўдзень Мінскай) у эпоху ранняга жалезнага веку (VII–III стст. да н. э.) была пашырана т. зв. мілаградская культура (ад назвы гарадзішча Мілаград у Рэчыцкім раёне). Большасць вучоных лічыць гэтую культуру балцкай. На поўнач ад арэала балцкай культуры, у сярэдняй частцы цяперашняй рэспублікі ў VII–VI стст. да н. э. – IV–V стст. н. э.) размяшчаліся плямёны культуры штрыхаванай керамікі (усходнелітоўскія, ці ўсходнебалцкія), якія зніклі, не пакінуўшы пасля сябе нават назвы. На поўначы Беларусі, у Віцебскай вобласці і суседніх раёнах, у VIII ст. да н. э. — IV ст. н. э. жылі плямёны днепра-дзвінскай культуры, якія належалі, як і плямёны штрыхаванай керамікі, да балтамоўнага насельніцтва. З канца I тысячагоддзя да н. э. у Верхнім і Сярэднім Падняпроўі, там, дзе раней знаходзіўся асноўны арэал мілаградскай культуры (Гомельская, Магілёўская, часткі Брэсцкай і Мінскай абласцей) склалася зарубінецкая культура. Адны вучоныя лічаць плямёны зарубінецкай культуры продкамі славян Падняпроўя, другія — плямёнамі, мова якіх займала прамежкавае становішча паміж славянскай мовай і блізкімі да яе заходнебалцкімі гаворкамі (2).

Пачынаючы з IV ст. славяне (склавіны і анты) рассяляліся на тэрыторыі Паўднёвай, Сярэдняй і Усходняй Еўропы. У сярэдзіне I тысячагоддзя на Беларусі культура штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінская змяняюцца т.зв. банцараўскай (ад назвы гарадзішча Банцараўшчына, што пад Мінскам), якая фарміравалася на аснове культур як балцкіх, так і славянскіх плямён. На думку беларускага

этнолага Ф. Клімчука, плямёны банцараўскай культуры з’яўляюцца непасрэднымі продкамі беларусаў (3). Другая археалагічная культура трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н. э. атрымала назву калочынскай (ад назвы в. Калочын Рэчыцкага р-на). На думку вучоных, гэта — балцкая культура, якая знаходзілася пад моцным уплывам славян. У VI–VIII стст. н.э. на паўднёвым захадзе Беларусі пасяліліся плямёны старажытных славян. У VIII–IX стст. славяне ва Усходняй Еўропе падзяліліся на 13–15 т. зв. племянных княжанняў. На тэрыторыі Беларусі гэта былі крывічы-палачане, дрыгавічы і радзімічы (4).

Сярэдневяковыя польскія храністы М. Бельскі і М. Стрыйкоўскі сцвярджаюць у сваіх хроніках, што сваю назву Белавежская пушча атрымала ад старажытнага замка з белымі вежамі, пабудаванага адным з яцвяжскіх князёў. Як піша ў сваіх дарожных нататках вядомы этнограф П. Шпілеўскі, месца, дзе быў гэты замак, у яго часы мела выгляд даволі ўзвышанага насыпу, акружанага з усіх бакоў капцамі, курганамі і валатоўкамі (старажытнымі язычніцкімі магіламі), і было вядома пад імем Замчышча, або Займішча. Некаторыя з гэтых капцоў і валатовак раскапаныя, і ў іх знойдзены цэлыя шкілеты чалавечыя і рознай велічыні гліняныя сасуды, відавочна, урны — ясны доказ, што пушча ў часы яцвяжскага язычніцтва была заселена (5).

Вядомы літоўскі археолаг Адольфас Таўтавічус, абагульніўшы вынікі даследаванняў гісторыі балтаў на Беларусі і дадзеныя гістарычных крыніц, у сваім падсумоўваючым артыкуле “Яцвягі, дайновы, судовы, паляксены і...” зрабіў спробу высветліць этнічны склад балцкага насельніцтва польска-беларускалітоўскага памежжа і яго гістарычны лёс (6). Ён, у прыватнасці, піша, што пасля з’яўлення прац гісторыкаў С. Заянчкоўскага, А. Камінскага, В. Пашуты, археолагаў Е. Антаневіча, Я. Ясканіса, М. Качынскага, Я. Акуліча, В. Сядова, мовазнаўцаў В. Мажуліса, Я. Налепы і інш. запанавала думка, што групу яцвяжскіх плямён, значнай часткі былога балцкага насельніцтва Беларусі, утварылі чатыры буйнейшыя плямёны. На паўночным ускрайку тэрыторыі іх пражывання жылі дайновы, на поўдні яны былі суседзямі літоўцаў. На паўночна-заходнім ускрайку пражывалі судовы. Тэрыторыі іх пражывання мяжуюць з Надровай і перш за ўсё з Бартай — прускімі плямёнамі. У паўднёва-заходняй частцы — на рацэ Элка (Лыха) пражывалі паляксены — суседзі галіндаў (голядзі) і мазураў. Яны раней былі больш моцнымі і шматлікімі і шкодзілі мазурскім князям, а пазней і польскім правіцелям. А ў цэнтральнай і ўсходняй частках пражывалі яцвягі, якія раней за ўсіх сутыкнуліся з пашыраючай у X–XI стст. сваю ўладу на поўнач Кіеўскай Руссю, а пазней — з галіцка-валынскімі князямі. Вядома, што паміж імі маглі быць і больш дробныя плямёны, найменні якіх, аднак, не захаваліся.

Пытанне пра паходжанне яцвягаў застаецца нявырашаным. Польскія археолагі лічаць, што гэтыя плямёны ўтварыліся ў пачатку I ст. да н. э., калі ў край характэрнай для ўсходніх балтаў курганнай культуры праніклі прышэльцы з вобласці мілаградскай культуры (басейна Прыпяці). Магчыма, што неаднолькавая колькасць прышэльцаў прадвызначыла, што ўзнікла некалькі родавых

плямёнаў і некалькі плямёнаў, або груп, якія падзяліліся, а прышэльцы з тэрыторыі культуры штрыхаванай керамікі і прадвызначылі ўтварэнне племя дайноваў і іх прыкметную блізкасць да літоўцаў. Большасць даследчыкаў прытрымліваецца думкі, што ў II ст. згаданыя ў “Геаграфіі” К. Пталамея судзіны і галінды ёсць тыя самыя судовы і іх суседзі галінды. Такім чынам, у пачатку н.э. гэтыя плямёны ўжо існавалі. З археалагічных дадзеных вядома, што і ў II–III стст. уласцівыя групам плямёнаў звычаі хавання нябожчыкаў адрозніваліся некаторымі рысамі іншай культуры. Напрыклад, у той час судовы ваколіц Сувалкаў хавалі нябожчыкаў у курганах няспаленымі, а над магільнай ямай накладвалі каменную крушню. Яцвягі, што жылі ў ваколіцах Аўгустова, сваіх нябожчыкаў хавалі спаленымі, у урнах. Тут мацнейшым быў уплыў прускай культуры ці рэліктаў курганнай культуры заходніх балтаў з больш ранняга перыяду. Не хапае дадзеных, каб ахарактарызаваць узаемныя адносіны дайноваў, судоваў, яцвягаў і паляксенаў, не ясна, чаму яны не спрабавалі ў XIII ст. стварыць свае дзяржавы або аб’яднацца з Літвой. Пісьмовыя звесткі аб культуры гэтых плямёнаў з XII–XIII стст. вельмі супярэчлівыя. Цяжка і ўстанавіць мяжу тэрыторый іх пражывання, таму што па гэтаму пытанню таксама не хапае дадзеных — і пісьмовых, і лінгвістычных, і археалагічных, а іншы раз гэтыя дадзеныя супярэчаць адны адным.

На падставе ўсяго комплексу дадзеных, якія ёсць па гэтаму пытанню, А. Таўтавічус спрабуе наблізіцца да вырашэння даволі складанага пытання — акрэсліць межы пражывання разглядаемых ім балцкіх плямён. Аўтар зазначае, што яшчэ ў 1965 г. вядомы літоўскі археолаг і гісторык культуры Пузінас, разглядаючы асобныя думкі розных аўтараў, указаў, што межы тэрыторый пражывання яцвягаў змяняліся са стагоддзямі.

Найбольш выразна вызначана заходняя мяжа. Яна праходзіць па польскай і літоўскай тэрыторыях (у іх сучасным стане) — пачынаючы ад Бебжы (правага прытоку Нарава) на паўночны захад ад вялікіх мазурскіх балот, далей па іх усходняму баку, а яшчэ далей яна паварочвае на паўночны ўсход у напрамку возера Вішціціс, перасякаючы лес Рамінта. Ад возера Вішціціс гэтая мяжа ідзе па былой мяжы паміж Літвой і Германіяй да ніжняга цячэння Нёмана. Праўда, і тут яшчэ з-за недаследаванасці археалагічных помнікаў галіндаў, бартаў і надроваў мяжа паміж гэтымі плямёнамі і яцвягамі застаецца няпэўнай.

Прытрымліваючыся думкі Я. Длугаша, што сталіцай яцвягаў быў Драгічын на Бугу, большасць гісторыкаў спрабуе правесці паўднёвую мяжу тэрыторыі пражывання яцвягаў да Буга (паміж Брэстам і Драгічынам). Вядомы літоўскі моваграфаўца Гяруліс сцвярджае, што яцвягі жылі і далей на поўдзень ад Буга. Расійскі лінгвіст В. Тапароў лічыць, што яцвягі жылі і на поўдзень ад Нарава і Буга. Думкі, што паўднёвай мяжой тэрыторыі пражывання яцвягаў быў Буг, не абвяргае і выдатны расійскі археолаг В. Сядоў, які з рускіх археолагаў бадай найбольш цікавіўся гісторыяй яцвягаў. Даследчыкі М. Цёпэн, А. Камінскі, М. Гімбуценэ, В. Мажуліс, Г. Лаўмяньскі, іншыя літоўскія і польскія гісторыкі і археолагі прытрымліваюцца думкі, што найбольш ве-

рагоднай мяжой пражывання яцвягаў з’яўляюцца Буг, яго прыток Нараў і, нарэшце, Бебжа, прыток Нарава.

Усходняя мяжа, як і паўднёвая, застаецца спрэчнай. З апублікаваных цяпер дадзеных (М. Цёпэн, Г. Лаўмяньскі, Ц. Энгель, А. Камінскі, Я. Налепа, М. Гімбуценэ, К. Буга, В. Сядоў, Я. Звяруга) вынікае, што на тэрыторыю паміж верхнім цячэннем Нёмана і Прыпяццю групы яцвягаў перасяляліся і будаваліся тут толькі ў XI–XIV стст. З цягам часу іх часткова асімілявалі беларусы, а адзін апошні астравок застаўся да канца XIX – пачатку XX ст. Якія балцкія ці славянскія плямёны тут жылі да VIII–IX ст, яшчэ не ясна.

Пры вызначэнні паўночнай мяжы большасць аўтараў (М. Цёпэн, Я. Самбжыцкі, Г. Лаўмяньскі, Ц. Энгель, А. Камінскі, М. Гімбуценэ, Я. Акуліч і інш.) прытрымліваюцца ўстаноўленай заключаным у 1422 г. у Мельне пагадненнем мяжы паміж Літвой і Прусіяй да Нёмана. Даводзіцца пагадзіцца з В. Сядовым, што мяжу тэрыторый пражывання яцвяжскіх плямён можна ўстанавіць паводле пашырэння характэрных для іх курганоў. З праведзеных у ваколіцах Сувалкаў польскімі археолагамі даследаванняў вядома, што ў II–IV стст. судовы хавалі нябожчыкаў з даволі шматлікімі металічнымі пахавальнымі ўбраннямі (упрыгожаннямі, зброяй, некаторымі прыладамі). У магільнай яме памерлых абкладвалі камянямі, а паверх іх складалі кучу камянёў, запаўнялі яе зямлёй, а насып акружалі каменным вянцом. Таму гэтыя курганы і названы каменнымі курганамі, крушнямі. У VI–VII стст. і пазней рэшткі спаленага нябожчыка ссыпалі ў гліняную урну і змяшчалі ў насыпаным з камянёў і зямлі кургане. Магілы судоваў-яцвягаў VIII–IX стст. менш вядомыя, але памерлых і далей хавалі спаленымі ў курганах або ў абкладзеных камянямі магілах. У паўночнай частцы Занямоння і каля нізоўяў Нёмана, а таксама Дубісы і Нявежы такіх магіл, складзеных з камянёў, не знойдзена. Тут у I–IV стст. памерлых хавалі таксама няспаленымі, але без ніякіх каменных насцілаў або насыпаў паверх магільных ямаў. Такія магілы ўтвараюць аўкштайцкую групу могілак і дазваляюць сцвярджаць, што на ўзбярэжжы Нёмана ніжэй Каўнаса на паўночнай ускраіне Занямоння ўжо з пачатку новай эры жылі аўкштайты. Дадзеныя праведзеных даследаванняў паказваюць, што ў II–XII стст. яцвягі ў Занямонні жылі толькі на поўдзень ад сярэдняга цячэння Прэны – Шылавоты і Шашупэ. На Мяркіне-Прэнскім участку Нёмана, а можа, і далей на поўдзень, у II—IV стст. усходнімі суседзямі яцвягаў былі плямёны культуры штрыхаванай керамікі — продкі літоўцаў. Іх паселішчы знаходзіліся на правым і левым берагах Нёмана і далей на усход, да ваколіц Мінска.

Такім чынам, зазначае А. Таўтавічус, дадзеныя, якія цяпер ёсць, дазваляюць сцвярджаць, што паўночна-ўсходняя мяжа тэрыторый пражывання яцвягаў некалькі разоў мянялася. Усходняя і паўночная частка Літвы да XIII ст. была заселена толькі літоўцамі і далей на поўдзень ад іх — іх родзічамі дайновамі, якія асталяваліся тут у IV–X стст.

Як вядома, лёс яцвягаў аказаўся трагічным. Мяркуючы па гістарычных фактах, яны самі ў пэўнай ступені яго прадвызначылі. У сваіх нататках П. Шпілеўскі

згадвае паданне, згодна з якім у Белавежскай пушчы пераважна жыло некалі вядомае балцкае племя яцвягаў, якое апраналася ў мядзведжыя шкуры; тут некалі атрымаў вядомасць сваімі набегамі на суседнія ўладанні Старажытнай Русі і Польшчы князь іх, Камят, справы якога дагэтуль апяваюцца ў народных песнях Гродзеншчыны і Ковеншчыны (7). Такім чынам, мяркуючы па гэтаму і шматлікіх іншых звестках, яцвягі былі вельмі ваяўнічымі.

У летапісе Нестара запісана, што вялікі князь кіеўскі Уладзімір, пашыраючы сваю ўладу, падначаліў яцвягаў, вяцічаў і радзімічаў, у 983 г. ён пайшоў супраць яцвягаў і забраў іх землі. Аднак перамога над яцвягамі была, відаць, кароткачасовай, бо яго сын Яраслаў Мудры ў 1038 і 1040 гг. зноў уварваўся ў яцвяжскую зямлю (апошняе нападзенне закранула і Літву). Ад пачатку XII ст., пашыраючы сваю ўладу на поўнач, пачалі войны з яцвягамі князі Валыні і Галіча: у 1112 г. на яцвягаў ідзе Яраслаў, у 1196 г. — яго сын Раман, а ў 1227–1256 гг. асабліва настойліва пакарыць яцвягаў стараўся сын апошняга Даніла. Ён у 1227 г. ужо біў яцвягаў пад Бярэсцем, у 1251 г. выступіў супраць іх з Драгічына. У Іпацьеўскім летапісе сцвярджаецца, што і ў 1251 г. яцвягі і войска Данілы аказвалі дапамогу жамойцкаму князю Вікінту, калі той напаў на замак Міндоўга Варуту. Значыць, амаль у тым жа годзе адна частка яцвягаў ваявала з галіцка-валынскім князем, а другая — разам з тым жа войскам Данілы дапамагала Вікінту. У рускіх летапісах і іншых дакументах яцвягаў называюць рознымі варыянтамі гэтага наймення, але часцей за ўсё — “ятвяги”, “ятвязи”.

Правіцель Польшчы Баляслаў IV (правіў у 1146–1178 гг.) каля 1166 г. спрабаваў пакарыць паляксенаў, якія летапісцам называюцца страшнымі праціўнікамі. У бітвах і непраходных балотах тады быццам загінула шмат палякаў і паляксенаў, якіх летапісец назваў яшчэ і гятамі. Другі правіцель Польшчы — Казімір Справядлівы ў 1192 г. нібы зноў спрабаваў заняволіць паляксенаў, якія, паводле летапісання, з’яўляліся родзічамі прусаў.

У сярэдзіне XIII ст. у гістарычных крыніцах неаднойчы згадваецца найменне дайноваў. У хроніцы Быхаўца паведамляецца, што вялікі князь Нарымонт зрабіў свайго брата Трайдзеня правіцелем яцвягаў. Трайдзень заснаваў Райгардас, паспяхова ваяваў з польскімі князямі. Зноў дайнова згадваецца ў дакументах Міндоўга. Нямецкі ордэн, які перасяліўся ў Прусію і падначаліў яе сабе, у сваіх дакументах, хроніках не ўжываў найменняў ні яцвягаў, ні дайноваў, ні паляксенаў, а ўсе гэтыя плямёны называў судовамі. Думаецца, што так сапраўды называлася адно племя яцвягаў, якое жыло раней у паўночна-заходняй частцы іх зямель па суседству з надровамі і прусамі. Гэтыя плямёны не намерваліся аб’яднацца, стварыць сваю дзяржаву. Міндоўг таксама не меў намеру далучыць іх да Літоўскай дзяржавы. А ў трэцяй чвэрці XIII ст. пачынаюцца асабліва жорсткія войны. У 1254 г. згаданы галіцка-валынскі князь Даніла, мазурскі князь Земавіт і Нямецкі ордэн стварылі саюз супраць яцвягаў, дамовіліся, што дзве трэціх часткі яцвяжскай зямлі дасталіся б Нямецкаму ордэну, а астатнюю трэць падзялілі б паміж сабой іншыя ўдзельнікі гэтага саюза. Пачаліся зацятыя бітвы. Нягледзячы на спробы асобных яцвяжскіх князёў аб’яднаць усе іх сілы і адбіць

наступы, праціўнікі пачалі спусташаць не толькі ўскраіны гэтага краю, але дасягалі і цэнтральных зямель. Так, князь Даніла ў 1256 г. разбіў аб'яднанае яцвяжскае войска пры Прывішчы (знаходзілася на адлегласці каля 15 км на захад ад сучаснага Аўгустова). У 1264 г. яцвяжскі край спустошыла войска караля Польшчы Баляслава V Сарамлівага. Яцвягі паспрабавалі падтрымаць паўстаўшых супраць Нямецкага ордэна прусаў, але ордэн задушыў паўстанне і ў 1277–1283 гг. канчаткова спустошыў гэты край — гарады, сёлы былі спалены, частка людзей знішчана, іншыя ўцяклі ў Літву, некаторых войска Нямецкага ордэна вывела ў няволю, частку пасялілі ў Самбіі, на захад ад Круляўца (Кенігсберга).

Так у канцы XIII ст. трагічна закончылася гісторыя яцвягаў. У пачатку XIV ст. храніст Нямецкага ордэна Пётр Дусбург у "Хроніцы Прускай зямлі" напісаў, што судовы (яцвягі) былі самыя высакародныя з усіх плямёнаў, якія жылі ў Прусіі. Яны пераўзыходзілі ўсіх іншых не толькі высакароднасцю звычаяў і багаццем, але і сваёй магутнасцю. Іх войска было самым шматлікім: судовы мелі 6000 вершнікаў і мноства іншых воінаў. Гэты факт побач са згаданым вышэй паданнем пра Камята сведчыць аб незвычайнай ваяўнічасці яцвягаў. Іх частыя набегі на суседнія плямёны выклікалі адэкватныя меры ў адказ, што пры адсутнасці ў іх сваёй дзяржавы і прадвызначыла іх гістарычны лёс як асобнай этнатэрытарыяльнай агульнасці, — дзякуючы двум згаданым суб'ектыўным фактарам гэты народ і стаў лёгкай здабычай больш згуртаваных суседзяў, не будучы ў стане ў рашаючы момант абараніць сябе ад знішчэння.

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

---

(1) Бондалетов В. Д. Социальная лингвистика. М., 1987. С. 68.
(2) Нарысы гісторыі Беларусі. Мн., 1994. Ч. 1. С. 40–49.
(3) Клімчук Ф. Беларусы — нашчадкі банцараўцаў? // Спадчына. 1996. № 1. С. 162–180.
(4) Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. С. 42–50.
(5) Шпилевский П. М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Мн., 1992. С. 40.
(6) Tautavičius A. Jotvingiai, dainaviai, sūduviai, poleksėnai ir… // Lietuvos mokslas. Vilnius, 1994. II t., 1(2) kn. P. 4–14. Там жа і літаратура.
(7) Шпилевский П. М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. С. 40.

## ХРОНІКА БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ

4 сакавіка ў Нацыянальнай бібліятэцы РБ адбыліся чытанні, прысвечаныя 185-годдзю з дня нараджэння геніяльнага ўкраінскага паэта Тараса Рыгоравіча Шаўчэнкі. Адкрыла іх віцэ-прэзідэнт Асацыяцыі ўкраіністаў Беларусі "Ватра", член прэзідыума Сусветнай каардынацыйнай рады ўкраінцаў Галіна Станкевіч. З дакладамі і паведамленнямі выступілі навукоўцы Таццяна Кабжыцкая, Вячаслаў і Пётр Рагойшы, Адам Мальдзіс, Лявонцій Гаранін, пісьменнік Васіль Жуковіч. Прысутных вітаў радны Пасольства Украіны ў Беларусі прафесар Васіль Ткачэнка.

У заключэнне прагучалі песні на вершы Кабзара ў выкананні ўкраінскага хору "Крыніца".

***Галіна Калюжная**, член прэзідыума Асацыяцыі ўкраінцаў Беларусі "Ватра"*

*Лідзія Кулажанка (Мінск)*

## З ГІСТОРЫІ ШКОЛЬНІЦТВА Ў ПАМЕЖНЫХ КРАІНАХ

**Лідзія Кулажанка** — кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Аўтар прац па гісторыі Беларусі, беларускай адукацыі і краязнаўству.

Нацыянальная школа, разам з сям'ёй, з'яўляецца асноўным сродкам захавання этнасу ў іншародным асяроддзі, важным чыннікам супрацьдзеяння моўна-культурнай асіміляцыі.

Вывучэнне гісторыі станаўлення і развіцця беларускай школы ў месцах кампактнага пражывання беларусаў за межамі Беларускай дзяржавы мае цікавасць не толькі з пункту гледжання даследавання грамадска-культурнага быцця беларусаў у іншаварыянтнай мадэлі грамадска-палітычнага развіцця. Яно таксама дае дадатковы, не ўлічаны матэрыял для даследавання гісторыі культурнага будаўніцтва, праяў нацыянальнай самасвядомасці, нацыянальнага характару і ментальнасці беларусаў XX ст.

Цікавасць да стану і развіцця беларускай адукацыі ў памежных краінах (Літва, Латвія, Польшча і Расія, на Украіне такое школьніцтва знаходзіцца ў зародкавым стане) значна павялічылася ў апошнія 10 гадоў у сувязі з актывізацыяй культурна-нацыянальнага жыцця беларускай меншасці ў названых краінах. Спробы стварэння сістэмы беларускага школьніцтва папярэднікамі выклікалі цікавасць да гістарычнага вопыту, да здабыткаў мінулага пакалення.

Пачаткам вывучэння стану і развіцця беларускага школьніцтва па-за межамі дзяржавы трэба лічыць навукова-папулярныя і публіцыстычныя працы, напісаныя ў 1920–1930-я гг. актывістамі і арганізатарамі школьнай справы — К. Езавітавым, А. Луцкевічам, С. Паўловічам, С. Сахаравым, М. Кахановічам і інш. (1)

Канстанцін Езавітаў (1893–1946), гісторык і публіцыст, грамадскі і палітычны дзеяч, быў інспектарам школ Беларускага аддзела пры Міністэрстве асветы Латвіі, рэдактарам часопіса "Беларуская школа ў Латвіі", дырэктарам Люцынскай беларускай гімназіі (1923–1924), надрукаваў некалькі навукова-папулярных брашур, артыкулаў, дзе дакументальна зафіксаваў стан і праблемы развіцця беларускай нацыянальна-культурнай справы ў Латвіі і Літве, прывёў параўнальна-статыстычныя дадзеныя пра стан школьніцтва ў 1920 – пачатку 1930-х гг. Канкрэтныя пытанні арганізацыі, зместу навучання і выхавання разглядаюцца ў працах выкладчыка Віленскай беларускай гімназіі Антона Луцкевіча, першага дырэктара гэтай жа гімназіі (1919–1922) Міхаіла Кахановіча, дырэктара і выкладчыка Віленскай беларускай гімназіі ў 1922–1926 гг. Сяргея Паўловіча.

Пасля канчатковай ліквідацыі сістэмы пачатковай і сярэдняй адукацыі ў Заходняй Беларусі, Літве і Латвіі, спынення дзейнасці беларускіх культурна-асветных таварыстваў вывучэнне гісторыі беларускага школьніцтва ў названых краінах фактычна не вялося. Многія актывісты і ўдзельнікі школьнага руху былі рэпрэсаваны (К. Езавітаў, С. Сахараў, А. Луцкевіч, В. Ластоўскі, Б. Тарашкевіч і інш.) ці праявілі сябе як калабаранты ў час вайны 1939–1945 гг. (Р. Астроўскі). Нават успаміны навучэнцаў беларускіх школ і гімназій у Літве і Латвіі змаглі пабачыць свет толькі ў 1990-я гг. (2).

У беларускай савецкай гістарыяграфіі стан беларускага школьніцтва ў Вільні і Віленшчыне, дзейнасць ТБШ вывучаліся, але пераважна ў рэчышчы нацыянальна-вызваленчай барацьбы працоўных Заходняй Беларусі. Найбольшая ўвага надавалася перыяду 1926–1936 гг., калі таварыства знаходзілася пад уплывам БСРГ і КПЗБ. Пра першы ж перыяд дзейнасці (1921–1926) толькі згадвалася, што ў той час ТБШ знаходзілася пад уплывам беларускіх нацыяналістычных партый.

Зварот да гэтай тэмы беларускіх даследчыкаў у апошнія гады сведчыць пра спробы пераадолення ідэалагічных стэрэатыпаў, асэнсавання гэтай часткі гісторыі беларусаў з пазіцыі цэласнасці грамадска-палітычнай і культурна-асветнай традыцыі (3).

Іншай выглядала сітуацыя на Беласточчыне, дзе пасля 1945 г. культурна-асветны рух беларусаў змог аднавіцца і быў звязаны з польскімі ўладнымі структурамі і ПАРП. Беларуская тэматыка, апроч перыядаў антыбеларускіх настрояў 1948, 1955–1956 гг., не была забаронена. Праблематыка беларускага школьніцтва рэгулярна асвятлялася на старонках тыднёвіка “Ніва”, у “Беларускім календары” і ў асобных даследаваннях (4), якія вяліся ў рэчышчы афіцыйнай ідэалогіі.

Новае, больш аб’ектыўнае асэнсаванне стану і праблем беларускага школьніцтва на Беласточчыне пачалося ў 1980–1990 гг. разам са зменай палітычнага ўладкавання Польшчы (5). Гісторыя пытання тым больш актуальная для сучасных даследчыкаў Беласточчыны, чым больш відавочнымі становяцца праблемы беларускай адукацыі ў Польшчы сёння.

Найменей асветленай выглядае гісторыя беларускай школы ў Расіі. Гэтая тэма яшчэ чакае свайго спецыяльнага даследавання (6).

Адзначым, што стварэнне і развіццё нацыянальнай школы беларускай нацыянальнай меншасцю ў Літве, Латвіі, Польшчы і Расіі, акрамя ўсяго агульнага, мелі свае асаблівасці, якія вызначаліся найперш грамадска-палітычнай сітуацыяй, характарам палітыкі ўлад у дачыненні да нацыянальных меншасцей, адносін з Беларуссю.

Першыя беларускія школы за межамі сучаснай беларускай дзяржавы ўзніклі на Віленшчыне, якая была цэнтрам культурна-асветнага і нацыянальна-вызваленчага руху ад пачатку стагоддзя і да канца 1930-х гг. Ужо ў 1915–1918 гг. у зоне нямецкай акупацыі былі створаны беларускія школы. Першая пачатковая школа ўзнікла ў Вільні ў 1915 г. Тут жа, у час акупацыі, былі адкрыты спецыяльныя

беларускія настаўніцкія курсы. У 1917 г. на Віленшчыне (разам з Гродзеншчынай і Навагрудчынай) дзейнічала 126, а ў 1918 г. 350 нацыянальных школ. У той час станаўленне і развіццё нацыянальнай школы звязвалася многімі дзеячамі з незалежнасцю і тэрытарыяльнай непадзельнасцю Беларусі. Пра гэта сведчаць адносіны паміж Віленскай беларускай радай на чале з А. Луцкевічам і Літоўскай Тарыбай (сеймам). Пасля абвяшчэння незалежнай Літоўскай дзяржавы (16.02.1918) паводле пагаднення, у аснове якога ляжала ідэя стварэння федэратыўнай беларуска-літоўскай дзяржавы, беларускія прадстаўнікі атрымалі 25 працэнтаў месцаў у Тарыбе, а беларускія тэрыторыі павінны былі атрымаць правы аўтаноміі з беларускай мовай у якасці дзяржаўнай. Але, нягледзячы на прыязныя дачыненні паміж Літвой і БНР, літоўскі ўрад у 1920 г. падпісаў мірную дамову з Расіяй, па якой да Літвы пераходзілі беларускія этнічныя тэрыторыі Віленшчыны і Гродзеншчыны.

У перыяд так званай Сярэдняй Літвы (1920–1922) перад пагрозай далейшага наступлення польскіх войск беларуска-літоўскія (БНР – Тарыба) адносіны былі саюзнымі, што спрыяльна адбілася на стане беларускага школьніцтва. Пры Дэпартаменце асветы дзейнічаў аддзел беларускіх школ на чале з Б. Тарашкевічам, узнікла Таварыства беларускай школы (1921), існавала каля 200 пачатковых школ, настаўніцкія курсы і гімназія ў Вільні. Але пасля правядзення 20 лютага 1922 г. польскімі ўладамі выбараў у часовы сейм ён пастанавіў далучыць тэрыторыю Віленшчыны да Польшчы.

У 1921 г. тры паветы былой Віцебскай губерні — Люцынскі, Рэжыцкі і Дзвінскі былі РСФСР перададзены Латвіі за пасрэдніцтва ў заключэнні Рыжскага мірнага дагавору, а яшчэ тры — Веліжскі, Невельскі і Себежскі апынуліся ў складзе Пскоўскай губерні РСФСР. Аднаўленне БССР пасля польскай акупацыі ў складзе 6 паветаў Мінскай губерні з насельніцтвам 1,6 млн. чалавек, уключэнне Заходняй Беларусі ў склад Польшчы, адвольнае вызначэнне і змяненне тэрыторыі Беларусі без уліку этнічных межаў абумовілі знаходжанне значнай колькасці беларусаў на сваіх спрадвечных землях, але ў складзе іншых дзяржаў.

Такім чынам, за дзяржаўнай мяжой аказалася значная колькасць этнічных беларусаў, якія павінны былі наладжваць сваё грамадскае і культурнае жыццё ў межах іншых дзяржаў.

### Беларуская школа ў Літве

Па Усерасійскім перапісе 1897 г. на тэрыторыях, якія адышлі да Літоўскай рэспублікі, пражывала 70 300 беларусаў. Аднак Першы літоўскі перапіс 1923 г. налічыў усяго 4400 беларусаў, што сведчыла, што за час Першай сусветнай вайны і рэвалюцыі колькасць беларусаў тут зменшылася ў 20 разоў (7). За гэты ж час змяншэнне іншых нацыянальных меншасцей не выглядае такім катастрафічным:

```
Яўрэяў   з 261 200  да 153 700
Палякаў  з 176 800  да  65 600
Рускіх   з  91 900  да  50 500
Немцаў   з  47 000  да  29 200 (8)
```

Згодна з высновамі К. Езавітава, такія статыстычныя дадзеныя тлумачацца вынікамі нізкай нацыянальнай свядомасці значнай часткі праваслаўных беларусаў, якія запісаліся рускімі (па яго падліках, каля 20 тыс.) і беларусаў-католікаў, якія запісаліся палякамі (прыкладна такая ж лічба). З першых дзён існавання Літоўскай дзяржавы польская і руская нацменшасці стварылі свае культурна-асветныя арганізацыі і школы, якія імкнуліся ўтрымліваць пад сваім уплывам беларусаў.

У 1920 – 1930-я гг. беларускія нацыянальныя сілы ў Літве групаваліся вакол Беларускай грамады і Беларускага сабрання ў Коўне. Тут выдаваліся часопісы "Крывіч" (рэдактар В. Ластоўскі) і "Беларускі сцяг" (орган БНР), дзейнічалі арганізацыі — Беларускі цэнтр у Літве, Беларуска-асветнае таварыства, Аб'яднанне студэнтаў-беларусаў Літоўскага універсітэта імя Вітаўта Вялікага ў Коўне.

Тым не менш, стварэнне сістэмы беларускага школьніцтва ў Літве выглядала няпроста. У адрозненне ад польскай і рускай нацыянальных меншасцей беларусы не мелі свайго прадстаўніцтва ў літоўскіх органах асветы. Беларуская школа падлягала апецы Бюро рускіх пачатковых школ, якое, натуральна, рупілася пра ўмацаванне рускай школы. У статыстычных аглядах змешваліся звесткі пра беларускія і рускія школы. Напрыклад, у "Геаграфіі Літвы" А. Тыміньскага прыводзіцца табліца пра колькасць рускіх і беларускіх школ у абагульненым выглядзе, але тут жа падаецца лічба вучняў у беларускіх школах, прытым чым больш павялічваецца колькасць школ, тым меншай аказваецца колькасць вучняў у беларускіх школах (9).

| год | колькасць бел. і рус. школ | колькасць вучняў агулам | колькасць вучняў у бел. школах |
|---|---|---|---|
| 1920 | 3 | 160 | — |
| 1921 | 4 | 274 | 105 |
| 1922 | 6 | 567 | 115 |
| 1923 | 11 | 694 | 58 |
| 1924 | 12 | 761 | 36 |
| 1925 | 12 | 772 | 34 |
| 1926 | 12 | 800 | — |
| 1927 | 17 | 855 | 32 |
| 1928 | 18 | 860 | 32 |

У 1929–1931 гг. у Літве была толькі адна беларуская пачатковая школа, якая ўтрымлівалася Міністэрствам асветы Літвы і падпарадкоўвалася Бюро рускіх пачатковых школ, у той час калі літоўскіх было 1997, яўрэйскіх — 135, польскіх — 81, нямецкіх — 22, латышскіх — 10, рускіх —91 (10). Яўрэйская, польская, нямецкая, латышская і руская меншасці мелі таксама сярэднія школы, прагімназіі і гімназіі.

*Стан школьнай справы ў Літве ў 1929 г.*

| Тып школы | літ. | яўр. | поль. | ням. | латыш. | рус. | бел. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пач. школы | 1997 | 135 | 81 | 22 | 10 | 91 | 1 |
| Сярэд. школы і прагімназіі | 64 | 17 | 1 | — | 1 | - | - |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Гімназіі і спец. школы | 36 | 11 | 3 | 1 | – | 1 | – |
| Настаўн. семінарыі | 9 | 1 | – | – | – | – | – |

У 1932 г. у Літве ўжо не было ніводнай беларускай школы (11).

Што ж прывяло да такога становішча? Як пісаў часопіс "Беларускі асяродак" (Коўна), літоўскі ўрад прыхільна ставіўся да культурна-асветнай працы беларусаў. Сярод адмоўных чыннікаў, якія ўплывалі на стан школьніцтва, тагачасны беларускі друк у Літве называў засілле палякаў у валасных управах, якія шукалі розныя прычыны, каб адмовіць беларусам. Па такой прычыне, напрыклад, як пісаў часопіс "Крывіч", беларусы не змаглі адчыніць свае школы ў Трокскім і Нова-Аляксандраўскім пав. (12) Але былі прычыны і іншага кшталту. У 1920–1930-я гг. у Літве было створана некалькі культурна-асветных таварystваў — Беларускі цэнтр (1923–1927 і 1933–1936), Беларускае культурна-прасветнае таварыства (1932–1935), Хаўрус беларусаў Літвы (з 1933), Літоўска-Беларускае таварыства (з 1933). У Беларускім цэнтры, на чале якога стаялі такія вядомыя дзеячы, як В. Ластоўскі, К. Дуж-Душэўскі, галоўнымі напрамкамі дзейнасці былі пераклады на беларускую мову і выданне навуковай літаратуры, школьных падручнікаў (у выдавецтве цэнтра вышла "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі" В. Ластоўскага). Шырокай жа грамадскай і асветнай дзейнасці таварыства не вяло. Больш таго, у беларускіх асяродках у Літве пачалася дыскусія: ці патрэбна наогул культурна-асветная праца. В. Ластоўскі і іншыя дзеячы беларускай эміграцыі, відаць, яшчэ мелі надзею на аднаўленне незалежнай беларускай дзяржавы на прынцыпах БНР або ў беларуска-літоўскай федэрацыі, таму не хацелі прызнаваць беларусаў на сваіх этнічных межах нацыянальнай меншасцю. Адсюль перакананасць, што трэба займацца больш "глабальнымі" праблемамі. На думку К. Езавітава, адмоўным чыннікам была недаацэнка "шараговай" працы з боку беларускіх палітычных дзеячаў, што ў сваю чаргу прывяло да недаацэнкі беларускай нацыянальнай меншасці літоўскім урадам. Палеміка вышла на старонкі перыядычнага друку, у яе былі ўцягнуты беларусы з Польшчы, Латвіі, эміграцыі.

Нягледзячы на ўнутраны разлад беларусы ў Літве нямала зрабілі для свайго школьніцтва. Найперш гэта выданне падручнікаў, слоўнікаў, у якіх была вострая патрэба. Такая работа была наладжана ў выдавецтве Беларускага цэнтра В. Ластоўскім і К. Дуж-Душэўскім. Чытанкі, слоўнікі, хрэстаматыі, падрыхтаваныя і выдадзеныя ў Коўне, выкарыстоўваліся ў Латвіі, на Віленшчыне і ў Заходняй Беларусі, спрыялі выхаванню ў дзяцей нацыянальнай самасвядомасці.

Пасля спынення дзейнасці Беларускага цэнтра на працягу пяці гадоў не было арганізацыі, якая б накіроўвала культурна-асветныя памкненні беларусаў. Створанае ў 1932 г. Беларускае культурна-асветнае таварыства аб'яднала якраз тыя сілы, якія па прыкладу іншых нацменшасцей ставілі мэтай пашырэнне асветы і культуры на роднай мове, адкрыццё кнігарняў і бібліятэк, правядзенне лекцый і чытанняў, тэатральнай і канцэртна-музычнай дзейнасці. Пры таварыстве пра-

цаваў перасоўны Беларускі народны універсітэт, дзе выкладаліся гісторыя і геаграфія Беларусі, беларуская культура, мова і літаратура. Са згоды Міністэрства асветы Літвы лектары універсітэта наведвалі мясцовасці, дзе жыло беларускае насельніцтва. З 1933 г. працавалі бібліятэка-чытальня і дзіцячы садок. Аднак ніводнай, нават пачатковай, школы беларускім арганізацыям адчыніць не ўдалося.

**Беларуская школа ў Латвіі**

Паводле афіцыйнай статыстыкі ў 1921 г. у Латвіі жыло 70 300 беларусаў, што значна менш, чым па Усерасійскаму перапісу 1897 г. Памяншэнне колькасці беларускага насельніцтва тлумачыцца акрамя вайны і эвакуацыі паланізацыяй беларусаў-католікаў Латгаліі і Паўднёвай Земгаліі і русіфікацыяй праваслаўных.



*Выстаўка вучнёўскіх прац І Беларускай школы ў Рызе*

Беларускае нацыянальнае жыццё ў Латвіі запачаткавалася яшчэ ў XVIII ст., у часы Беларускага намесніцтва, пры якім была асобная беларуская епіскапія і асобная вучэбная акруга. У 1831 г. у Дзвінску была заснавана першая ў краі гімназія, якая стала асяродкам беларускага культурнага жыцця (13). Аднак яна праіснавала толькі да скасавання Мікалаем І Беларускай вучэбнай акругі. Гэтым жа загадам было забаронена карыстацца беларускай мовай у друку, літаратуры, школе і царкве.

Пасля падпісання Рыжскага мірнага дагавору 1921 г. пачалася нацыянальна-культурная дзейнасць беларусаў у Латвіі. Цэнтрам збірання нацыянальных сіл стаў эміграцыйны ўрад БНР, які знаходзіўся да канца 1920 г. у Рызе. Культурна-асветныя таварыствы, якія былі створаны ў Дзвінску, Люцыне, Краславе, ставілі мэтай развіццё нацыянальнай свядомасці, пашырэнне асветы, беларускага друку, заснаванне беларускіх школ і падрыхтоўку настаўнікаў.

Згодна з латышскім заканадаўствам аб правах нацыянальных меншасцей беларусы мелі права ў кожнай мясцовасці, дзе было 30 дзяцей школьнага ўзросту, адчыняць пры існуючай латышскай або іншай школе беларускі клас. Калі ж лік дзяцей перавышаў 40 чалавек, можна было адчыняць беларускую школу.

Найбольшы плён мела дзейнасць Таварыства "Бацькаўшчына", створанага ў Дзвінску (1921–1925). У выніку дзейнасці таварыства і пры падтрымцы латышскага паэта і грамадскага дзеяча Яна Райніса ў 1921 г. пры Міністэрстве асветы Латвіі быў створаны Беларускі аддзел для кіраўніцтва навучальнымі ўстановамі. На чале аддзела стаў С. Сахараў, а інспектарам школ — К. Езавітаў. У гэтым жа

годзе былі арганізаваны Першыя летнія настаўніцкія курсы, дзе чыталіся лекцыі па беларусазнаўству, беларускай мове, а восенню былі адчынены першыя 16 беларускіх школ у Латвіі (14). У 1922/23 навучальным годзе ў Латвіі ўжо было 50 пачатковых школ і дзве гімназіі (у Дзвінску і Люцыне) (15). Прычым усе школы ўтрымліваліся дзяржавай пры дапамозе мясцовых улад. З 1926 г. выдаваўся навукова-папулярны і педагагічны часопіс Таварыства беларускіх вучыцялёў у Латвіі пад назвай “Беларуская школа ў Латвіі” (адказны рэдактар К. Езавітаў), дзейнічала Беларускае выдавецтва, якое выдала падручнікі “Беларуская школа. Першая пасля лемантара кніга для чытання” (Рыга, 1926), “Наш край: Кніга для чытання ў пачатковай школе” (Рыга, 1928) і інш .

Перад беларусамі Латвіі стаяла задача захавання і далейшага развіцця намечанага накірунку. Нягледзячы на лаяльнае стаўленне латышскага ўрада да культурна-асветных памкненняў беларусаў, узніклі перашкоды з боку польскай і латышскай нацыянальнасцей. Ва Устаноўчым сейме Латвіі, у камісіях, а затым у прэсе пачалася дыскусія, навязаная польскімі і рускімі коламі, якія былі незадаволены адтокам вучняў-беларусаў з польскіх і рускіх школ. Інспіраванне антыбеларускіх настрояў і лабіраванне дзяржаўных уладных структур польскімі і рускімі шавіністычнымі коламі далі хуткія вынікі. Ужо ў 1922–1923 гг. некалькі беларускіх школ было перададзена з беларускага аддзела ў падпарадкаванне Агульнага школьнага дэпартамента, а тры школы Люцынскага павета перададзены рускаму аддзелу, была ліквідавана пасада інспектара беларускіх пачатковых школ. Восенню 1923 г. у раёнах, дзе кампактна пражывалі беларусы, было адчынена некалькі латышскіх школ, а існуючыя беларускія — ліквідаваны. У існуючых школах пачаліся рэвізіі і праследаванні настаўнікаў. У 1924–1925 гг. адбыўся так званы “беларускі працэс” над 8 беларускімі настаўнікамі Дзвінскай і Люцынскай гімназій, сярод якіх былі К. Езавітаў і І. Краскоўскі, былыя дырэктары Люцынскай гімназіі, У. Пігулеўскі, намеснік дырэктара гэтай жа гімназіі, П. Мядзёлка, настаўніца Дзвінскай гімназіі, выкладчык беларусазнаўства І. Дварчанін і інш. Як паведамляла газета “Голас беларуса”, арыштаваным інспіравалася выкарыстанне ў школах “шкодных” падручнікаў (“Геаграфіі Беларусі” А. Смоліча, карты Беларусі часоў БНР з этнаграфічнымі межамі, вывучэнне на ўроках спеваў гімна “Ад веку мы спалі” і г. д.). Палітычная ўправа, правёўшы расследаванне, прыйшла да высновы, што ў Латгаліі працуе беларуская арганізацыя,



*Рыжская беларуская асноўная школа для дарослых. V клас. 1934 г.*

якая мае мэтай утварэнне незалежнай беларускай дзяржавы (мелася на ўвазе Таварыства "Бацькаўшчына"). Нягледзячы на спробу следчых надаць сур'ёзнасць абвінавачанням, суд прызнаў недаказаным існаванне хаурусу, які меў на мэце антыканстытуцыйнымі сродкамі адарваць частку латышскай тэрыторыі.

Тым не менш, згаданы працэс у значнай ступені дэмаралізаваў настаўніцтва і бацькоў. На чарговым Латышскім перапісе 1925 г. з 376 тыс. беларусамі зарэгістравалася толькі 38 тыс. Некаторыя школьныя рады адмаўляліся ад беларускай мовы, выказваліся за частковае ўвядзенне польскай і рускай моваў. Адначасова дзяржаўныя асігнаванні на беларускія асветныя патрэбы зменшыліся напалову.

*Стан беларускай пачатковай школы ў 1923 г. у Латвіі (16)*

| Нацыян. | % пісьмен. | Кольк. насельн. | Пачатк. школы | На які лік жыхароў прыпадае |
|---|---|---|---|---|
| латышы | 74(м)—74(ж) | 1 119 000 | 1 317 | 850 |
| рускія | 43—28 | 91 477 | 198 | 462 |
| немцы | 83—87 | 58 097 | 73 | 796 |
| беларусы | 39—27 | 66 194 | 50 | 1324 |

У 1925 г. у Латвіі лік пачатковых школ зменшыўся да 36, у 1929 г. — да 33, а ў 1933 г. засталіся толькі 24 пачатковыя школы. Тыя школы, якія падпарадкоўваліся Міністэрству адукацыі, паступова пераўтвараліся ў латышскія. Засталіся пераважна прыватныя школы і тыя, якія ўтрымліваліся з мясцовага бюджэту. Многія беларускія настаўнікі засталіся без працы. Школьныя рады і настаўнікі павінны былі самі апекавацца вучнямі з малазабяспечаных сем'яў, бо плата за навучанне ў прыватных школах была даволі высокая.

Амаль такі стан быў і з сярэдняй адукацыяй:

*Колькасць сярэдніх беларускіх школ у Латвіі ў 1923 г. (17)*

| Нацыян. | Колькасць насельн. | Колькасць школ | На які лік жыхароў прыпадае |
|---|---|---|---|
| латышы | 1 119 000 | 60 | 18 656 |
| рускія | 91 477 | 25 | 3 659 |
| яўрэі | 9 368 | 9 | 8 818 |
| беларусы | 66 194 | 2 | 33 048 |
| немцы | 58 097 | 10 | 5 809 |
| палякі | 52 244 | 3 | 17 414 |

Адначасова ў Латвіі (на 1933 г.) працавалі двухгадовыя Беларускія настаўніцкія курсы ў Дзвінску (з 1923 г. у Рызе), Рыжская гарадская вячэрняя школа для дарослых, Рыжская гарадская прафесійная вячэрняя школа для дарослых (18).

У сярэдзіне і ў 2-й палове 1930-х гг. у Латвіі працягваўся наступ на беларускія школы. Навісла пагроза закрыцця і над Люцынскай беларускай асноўнай 6-класнай школай. Мясцовая школьная ўправа ў 1932 г. пастанавіла з наступнага 1932/33 навучальнага года замест беларускай і польскай школ адчыніць змешаную і падпарадкаваць яе Агульнаму дэпартаменту асветы. У 1932 г. была спро-

ба ліквідаваць беларускую гімназію ў Дзвінску (зачынены першы клас, звольнены С. Сахараў), але пад націскам грамадскасці міністр асветы Латвіі адмяніў сваё рашэнне, пры гэтым зазначыў, што ў беларусаў усё ж "мала актыўнасці". У 1934 г. быў ліквідаваны Беларускі аддзел пры Міністэрстве адукацыі Латвіі, а ў наступным годзе зачынена Беларускае выдавецтва, якое на працягу 10 год займалася выданнем падручнікаў, дапаможнікаў, а яго рэдактар К. Езавітаў быў арыштаваны (19). У 1938 г. была канчаткова ліквідавана Дзвінская дзяржаўная беларуская гімназія.

Беларуская супольнасць у Латвіі спрабавала бараніць свае правы, гуртуючыся ў грамадскія і палітычныя партыі, звяртаючыся ў латышскія органы ўлады. Але прадстаўніцтва беларусаў у парламенце было вельмі слабым. У Латгальскай народнай партыі, самай уплывовай на той тэрыторыі, дзе пражывалі беларусы і якая была прадстаўлена ў парламенце, беларусаў не было. Якраз гэтая партыя актыўна выступала супраць пашырэння сеткі беларускіх школ. Культурна-асветнае таварыства беларускай інтэлігенцыі ў Латвіі "Беларуская хата" разам з іншымі арганізацыямі неаднойчы звярталіся ў парламент і да прэзідэнта Латвіі з дэкларацыямі ў абарону беларускай школы. Аднак паводле рашэння Рыжскага акружнога суда ў 1935 г. на аснове закона аб ліквідацыі палітычных партый і таварystваў "Беларускай хаце" было прапанавана самараспусціцца. Разам з гэтым беларусы Літвы і Латвіі на доўгія дзесяцігоддзі страцілі з цяжкасцю створаную сістэму нацыянальнай адукацыі.

---

(1) Езавітаў К. Становішча беларускай школы ў Латвіі. Вільня, 1923; яго ж: Беларусы ў Літве. Рыга, 1932; яго ж: Беларуская школа. Рыга, 1926; яго ж: Беларускае культурна-асветнае таварыства ў Латвіі. Рыга, 1932; Луцкевіч А. Як вучыць у новай школе?: Увагі для вучыцялёў беларускай сярэдняй школы. Вільня, 1923; Сахараў С. Гістарычны нарыс пяцігоддзя Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі. Дзвінск, 1927" Паўловіч С. Аб арганізацыі беларускай працоўнай школы. Вільня, 1928.

(2) Багдановіч Я. Беларускі прытулак у Вільні і Віленская беларуская гімназія // Багдановіч Я. На жыццёвым шляху: Успаміны. Мн. 1992; Шутовіч Я. Успаміны пра Віленскую беларускую гімназію // Спадчына. 1995, №1; Краскоўская Л. Аб Беларускай гімназіі ў Вільні; Беларуская дзяржаўная гімназія ў Дзвінску // Прамень. 1996. Ліп.; Коўш З. Віленская гімназія // Беларуская мінуўшчына. 1995. № 1.

(3) Вабішчэвіч А. Нацыянальная школа ў Заходняй Беларусі (1921– 1939). Аўтарэф. дыс…канд. гіст. навук. Мн., 1996; яго ж: Таварыства беларускай школы: Першыя гады існавання // Спадчына. 1996, № 5; яго ж: Таварыства беларускай школы (1921–1936) // Спадчына. 1997. № 1; Снапкоўская С. Уплыў падручнікаў Вацлава Ластоўскага на выхаванне самасвядомасці беларускіх дзяцей // Беларусіка. Мн., 1993. Кн. 2; Корсак А. Беларусы на Смаленшчыне // Голас Радзімы. 1997. 9 кастр. і інш.

(4) Туронак Ю. Беларускае школьніцтва на Беласточчыне ў пасляваенны перыяд. Беласток. 1976; яго ж: Turonak J. Biełaruskaje szkolnictwa u Biełastoku. Biełastok. 1976.

(5) Polska, Polacy, mniejszości narodowe. Warszawa, 1992; Iwaniuk A. Kilka uwag do szkolnictwa białoruskiego w Hajnówce w latach 1921–1947 // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1994. Nr 2; Mironowicz E. Polityka władz wobec szkolnictwa białoruskiego na Białostocczyznie w latach 1944–1980 // Białoruskie Zeszyty Historyczne, 1994. Nr 2; Навіцкая З. Летапіс Бельскага ліцэя // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1994. Nr 2; Białorusini i stosunki polsko-białoruskie na Białostocczyznie. T. 1.

(6) Корсак А. Беларусы на Смаленшчыне // Беларусіка–6. Мн., 1997. Ч. 2.
(7) Езавітаў К. Беларусы ў Літве. С. 3.
(8) Tymiński A. Geografja Litwy. Kaunas, 1931. S. 11.
(9) Тамсама. С. 26.
(10) Езавітаў К. Беларусы ў Літве. С. 6.
(11) Беларуская школа ў Латвіі. 1932. № 2.
(12) Крывіч. 1923. № 6.
(13) Князев А. Историческая записка Двинского реального училища. Двинск, 1904.
(14) Езавітаў К. Беларускае культурна-асветнае таварыства "Бацькаўшчына" ў Латвіі. С. 13.
(15) Крывіч. 1923. № 3. С. 55.
(16) Езавітаў К. Беларускае культурна-асветнае таварыства "Бацькаўшчына". С. 24.
(17) Тамсама.
(18) Сям'я і школа. 1933. № 6.
(19) Шлях моладзі. 1935. № 4.

## ХРОНІКА БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ

### СУСТРЭЧА З АЛЯКСАНДРАМ БАРШЧЭЎСКІМ

У Доме літаратара нядаўна адбыўся літаратурны вечар беларускага паэта і даследчыка, загадчыка кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Алеся Барскага (Аляксандра Баршчэўскага). Вядучай вечара, першаму намесніку старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вользе Іпатавай было нялёгка пералічыць усе пасады, прафесійныя і грамадскія абавязкі госця — настолькі ён уганараваны імі: віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, кіраўнік яе польскай суполкі, віцэ-прэзідэнт Саюза беларускіх фалькларыстаў, ганаровы доктар Белдзяржуніверсітэта, член двух пісьменніцкіх саюзаў: польскага і беларускага... Ва ўступным слове Вольга Іпатава гаварыла пра Алеся Барскага як пра паэта, з захапленнем прачытала некалькі яго вершаў. А Уладзімір Казбярук спыніўся на біяграфіі паэта, на крыніцы яго творчасці — яна ў роднай вёсцы Бандары, што на Беласточчыне, даў ацэнку ўкладу яго ў беларускае літаратуразнаўства, у прыватнасці, падкрэсліў, што Аляксандр Баршчэўскі першы сярод выкладчыкаў-філолагаў уключыў у курсы лекцый творчасць Алеся Гаруна, Наталлі Арсенневай, Францішка Аляхновіча.

Сваімі ўражаннямі пра сустрэчы з Алесем Барскім, пра яго творчасць падзяліўся Анатоль Вярцінскі. Старшыня Саюза беларускіх фалькларыстаў Васіль Ліцвінка даў характарыстыку працы варшаўскага вучонага як фалькларыста, што ўносіць важкі ўклад у раскрыццё духоўнага багацця беларускага народа.

Пра вытокі сваёй творчасці, пра сваю так званую "маленькую" радзіму гаварыў у завяршэнне вечара Алесь Барскі. Зыходзячы з яго слоў, ён пакланяецца тром "іпастасям": велічыні сусвету, яго красе і таямнічасці. Паэт прачытаў свае вершы, адказаў на шматлікія пытанні. Разам з пісьменнікамі ў вечары прыняла ўдзел група студэнтаў-паланістаў Белдзяржуніверсітэта.

***Аляксей Гардзіцкі**, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў*

## "ЛІТВА – БЕЛАРУСЬ: ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ"

Так называўся "круглы стол", прысвечаны Дню незалежасці Літоўскай Рэспублікі. Адбыўся ён 17 лютага ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.

Першым на пасяджэнні "круглага стала" ўзяў слова дарадчык Упраўлення Еўропы Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь кандыдат палітычных навук Руслан Есін. Ён ахарактарызаваў многія добрыя справы, якія сведчаць пра плённае супрацоўніцтва абедзвюх краін-суседак. Гэта і сустрэча іх прэзідэнтаў на сумеснай мяжы, і стварэнне супольнага Фонду імя Ф. Скарыны, над праграмай якога цяпер працуюць дзве нацыянальныя групы. Для г. Шальчынінкай беларускі скульптар Валерый Янушкевіч зрабіў помнік Кастусю Каліноўскаму.

Многа красамоўных лічбаў і фактаў прывёў загадчык аддзела Міністэрства культуры Беларусі Тадэвуш Стружэцкі. У Літве цяпер дзейнічаюць 15 беларускіх суполак, 13 з якіх аб'яднаны ў федэрацыю. З беларускага боку ім аказваецца істотная дапамога. Так, пяць мастацкіх калектываў атрымалі з Мінска касцюмы. Нядаўна ў Вісагінасе прайшоў III Фестываль беларускай песні. Намячаюцца гастролі ў Літве беларускіх мастацкіх калектываў. Актыўна ўдзельнічаюць у культурным жыцці сваёй краіны літоўцы Беларусі на чале з Вірджыніяй Тарнаўскайтэ (да прыкладу — у фестывалях у Гродне).

Яўген Вайтовіч, які некалькі год быў паслом Беларусі ў Літве, падзяліўся думкамі пра поспехі і цяжкасці ў наладжванні нашых культурных кантактаў, у многім перапыненых. Цяпер іх даводзіцца ўзнаўляць не столькі на дзяржаўным узроўні, колькі на непасрэдных, "гарызантальных" сувязях. І тут нямала зроблена. У Вільнюсе адбыліся выступленні Васіля Быкава, Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна. Па словах дыпламата, у літоўцаў ёсць тое, чаму варта павучыцца беларусам, — нацыянальная ідэя, якая аб'ядноўвае ўсіх і кожнага незалежна ад палітычных поглядаў і рознагалоссяў.

Удзельнікаў "круглага стала" вітаў першы сакратар пасольства Літвы ў Беларусі Гінтаўтас Шуліс. Адказваючы на пытанні прысутных у зале студэнтаў факультэта міжнародных адносін Беларускага дзяржаўнага універсітэта, ён выказаў надзею, што ўведзеныя нядаўна ўскладненні пры пераездзе мяжы маюць часовы характар, што ў перспектыве абедзьве краіны дамовяцца пра бязвізавы рэжым.

Вёў "круглы стол" прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс, "чалавек культурнага памежжа". Ён увязваў сучаснасць з гістарычнымі традыцыямі. А яны ў беларусаў і літоўцаў шмат ў чым супольныя, узыходзяць да Вялікага Княства Літоўскага, агульных помнікаў літаратуры і мастацтва.

***Вячаслаў Чамярыцкі**, член праўлення Таварыства "Беларусь – Літва"*

## ЁН ВЫДАВАЎ “ЭХО” Ў АРГЕНЦІНЕ

Як і многія сяляне з Заходняй Беларусі, Антон Коршун з вёскі Смаленікі, што на Брэстчыне, Адам Вількевіч з в. Гарадзішча і Пётр Гладкі з Мядзведзічаў выехалі ў Аргенціну ў 1930 г. Гнала іх туды галеча, беззямелле. На радзіме яны пакідалі жонак і дзяцей, маючы намер вярнуцца да іх за “пару гадкоў” з грашыма. Аднак лёс эмігрантаў склаўся інакш. Шчаслівая сустрэча з сям’ёй, няхай і пасля трыццаці чатырох гадоў, у канцы 1964 г., адбылася толькі ў Аляксандра Коршуна. Пра лёс жа яго сяброў Вількевіча і Гладкага вядома толькі, што ў 1939 г., калі немцы напалі на Польшчу, яны добраахвотнікамі пайшлі на вайну і прапалі без вестак.



*Антон Коршун (1934)*

А вось жыццё Антона Коршуна склалася ў Паўднёвай Амерыцы не так ужо і дрэнна. З “тутэйшага хлопца” за якіх дзесяць гадоў ён вырас да адміністратара-выдаўца рускамоўнага штотыднёвіка “Эхо”. Многа энергіі аддаваў ён выданню “Беларускіх календароў”.

Пра свае нягоды Антон Коршун падрабязна расказаў у газеце “Родной голос”, якая выдавалася ў Буэнас-Айрэсе. З яго ўспамінаў відаць, што нарадзіўся ён у Смаленіках 7 чэрвеня 1893 г. У Першую сусветную вайну быў у бежанстве. Вярнуўся на папялішча роднага дома. Адбудаваўся, ажаніўся. Але дзяцей не было чым карміць. Хадзіў па навакольных вёсках, крыху зарабляў сталярствам, цяслярствам. Для таго, каб купіць хаця б тры гектары зямлі, паехаў “на другі канец свету”. Але ў далёкай краіне таксама было беспрацоўе. Антон Коршун захварэў, жыў, дзе давялося. Выратаваў яго Максім Строк, зямляк з Баранавіч. Ён зняў з банкаўскага рахунка апошніх 20 песа і знайшоў для абодвух пакойчык. Разам сталярнічалі на розных фабрыках, разам вывучалі мовы — іспанскую, англійскую, французскую, рускую.

9 сакавіка 1942 г. Антон Коршун пераняў ад свайго папярэдніка, Іосіфа Альсевіча, дырэктарства газеты “Эхо”, якая тады выступала ў абарону СССР, супраць нацысцкіх захопнікаў. Намеснік дырэктара Валерый Смірноф перадаў яму спіс аўтарскага актыву (спіс захаваўся ў паперах Коршуна), а ў ім — больш за сотню тыпова беларускіх прозвішчаў.

З дзённікавых запісаў, якія мне ўдалося выявіць у архіве Антона Коршуна, відаць, што ён у вольны час наведваўся ў бібліятэку імя Луцкевічаў, пісаў там артыкулы і нават вершы. Але вакол газеты разгарэліся палітычныя баталіі. Кор-

шун станавіўся, як ён сам пісаў, “марксістым”. 1 ліпеня 1943 г. давялося пайсці ў адстаўку. Зноў працаваў на фабрыках. Ноччу сніў радзіму. Пачаў думаць пра вяртанне. Устанавіўшы кантакты з савецкім консульствам, у 1947 г. атрымаў пашпарт грамадзяніна СССР. Здзіўляўся, калі жонка прасіла ў лістах дапамагчы ёй і дзецям: “Як гэта можна так добра жыць і прасіць капіталістычных анучаў”. Але дазволу на выезд усё не было. І Антон Коршун пачаў супрацоўнічаць з газетай “Марцін Каранада”, а потым “заняў месца ў рэдакцыйнай калегіі штотыднёвіка як дэлегат ад клуба “В. Г. Бялінскі”. Пачаў накідваць кароткі нарыс беларускіх культурна-асветных таварыстваў у Аргенціне — ад іх заснавання да закрыцця. Потым змагаўся за адкрыццё клуба “Пушкін”.



*Рэдакцыя газеты “Эхо” — М. Мярэчка, Шастакоўскі, В. Смірноф, У. Гайлевіч, А. Коршун, А. Саланенка, Я. Бурвель, Б. Слізень, В. Булаты (жнівень 1942). З подпісу на здымку не ясна, ці ў такім жа парадку размешчаны асобы*

У памяшканні клуба “Пушкін” і адбыўся развітальны вечар з нашым суайчыннікам. На ім “спявалі беларускія і ўкраінскія песні”. Генеральны сакратар Федэрацыі беларускіх культурных таварыстваў і арганізацый у Аргенціне Уладзіслаў Гайлевіч уручыў Коршуну памятную грамату з подпісам прысутных. Затым пачаўся канцэрт. Першай на сцэну выйшла ўсімі паважаная і любімая Сусана Маркушэўская-Дабнюк. Выступалі самадзейныя артысты з клубаў “Пушкін”, “Бялінскі”, “Астроўскі”, “Маякоўскі”, “Горкі”, “Дніпро”, літоўцы, армяне.

20 верасня 1964 г. Антон Ігнатавіч Коршун на параходзе “Сальта” адбыў на радзіму. З сабой ён вёз набор сталярных інструментаў, “чамадан з архівам”. І яшчэ чамадан “з дзвюма карцінамі і верхнім адзеннем”. Запісы рээмігранта абрываюцца на фразе: “Я на радзіме. У дом на хутары ўвайшоў 24 кастрычніка 1964 г., у чатыры гадзіны пасля абеду”.

Мы можам толькі здагадвацца, якую духоўную драму перажыў Антон Коршун, вярнуўшыся ў родныя Смаленікі. Застаўся верным ранейшым ідэалам? Расчараваўся ў іх? Адказ на гэтыя пытанні маглі б даць яго пазнейшыя дзённікі, але, па словах сына, Вінека Коршуна, яны пасля смерці бацькі (1988) былі знішчаны. Праўда, засталіся запісы пра эміграцкія арганізацыі ў Аргенціне. І яны, па-мойму, павінны зацікавіць даследчыкаў.

***Міхась Турыянскі*** *(Ляхавічы Брэсцкай вобл.)*

***Ад рэдакцыі.*** Мы шукаем даследчыка, які выехаў бы ў Ляхавічы і Смаленікі і заняўся б запісамі А. Коршуна.

## СТАРОНКІ БУДУЧАГА ДАВЕДНІКА

### БЕЛАРУСКА-ЭСТОНСКАЕ ЗГУРТАВАННЕ “БЭЗ” (БЭЗ)



*1-шы рад злева направа: М. Астравумава, В. Белякова, С. Разанка, З. Клыга, В. Фёдарава, Л. Глімакова. 2-гі рад злева направа: В. Аляксандрава, М. Юрэня, І. Дрозд*

Грамадска-культурная арганізацыя беларусаў у г. Йыхві. Установчы сход адбыўся 6 сакавіка 1989 г. Афіцыйна зарэгістравана 21 мая 1991 г. Старшыні — Уладзімір Дзехцярук, Маргарыта Астравумава. Мэта згуртавання — спрыянне кансалідацыі беларусаў на падставе духоўнай, культурнай, рэлігійнай агульнасці; развіццё сувязей з суайчыннікамі за мяжой; азнаямленне эстонцаў з гістарычнай і культурнай спадчынай Беларусі; наладжванне ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з гаспадарчымі структурамі Беларусі.

Згуртаваннем праводзіцца значная культурна-асветна работа — адзначаюцца нацыянальныя беларускія і эстонскія святы, гадавіны значных гістарычных падзей, угодкі выдатных дзеячаў культуры; праводзяцца Дні беларускай культуры, вечарыны, віктарыны, канцэрты, сустрэчы, знаёмствы з мастацкімі калектывамі “Васілёк” (ЗША), “Юнацтва”, “Скарыначка” (Беларусь); удзельнічала ў выстаўках творчага аб’яднання беларусаў-мастакоў Балтыі “Маю гонар” (з 1992 г.) і выстаўцы мастакоў у Саўт-Рыверы (1993, ЗША); арганізуюцца краязнаўчыя вандроўкі па Беларусі, Эстоніі, Расіі. Дзеці эстонскіх беларусаў удзельнічалі ў конкурсе дзіцячага малюнка ў Саўт-Рыверы (1994). З 1994 г. наладжаны творчыя сувязі з аб’яднаннем “МЭЯ” (Мастацтва. Экалогія і Я. Гомель). У рамках праграмы па прапагандзе беларускай культуры ў Эстоніі наладжаны 4 выстаўкі гомельскіх мастакоў.

У 1995 г. БЭЗ арганізавала прэзентацыю зборніка вершаў і апавяданняў У. Дзехцерука “Сярод белых эстонскіх начэй”. З мая 1992 г. на хвалях Эстонскага радыё існуе беларуская праграма. Пры згуртаванні закладзена бібліятэка.

Беларуска-эстонскае згуртаванне прымала ўдзел у стварэнні Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” (1990), падтрымлівае сталыя сувязі

з беларускім таварыствам “Радзіма”, беларускімі арганізацыямі замежжа. Сябры згуртавання прынялі ўдзел у рабоце Першага і Другога з’ездаў беларусаў свету (1993, 1997), сходзе беларусаў блізкага замежжа (1992), з’езда беларусаў краін Балтыі (1994), Першай сустрэчы беларускай моладзі свету (1994).

***Анфіса Ляднёва***

## ЗЯЛЁНКА СТАНІСЛАЎ



***Зялёнка Станіслаў Станіслававіч*** *(1.05.1959, в. Панкраты Вілейскага р-на Мінскай вобл.), мастак, паэт, грамадскі дзеяч.*

С. Зялёнка нарадзіўся ў сялянскай сям’і. Пасля заканчэння ў 1976 г. Крывіцкай сярэдняй школы паступіў у Мінскі электратэхнічны тэхнікум сувязі. З 1977 да 1979 г. служыў у войску. Тэхнікум закончыў у 1981 г. і быў накіраваны ў Вільнюс, у Тэхнічны вузел саюзных магістральных сувязей і тэлебачання. У 1990 г. скончыў Вільнюскую вячэрнюю мастацкую школу і паступіў на завочнае аддзяленне Беларускай акадэміі мастацтваў.

С. Зялёнка – бадай што самы папулярны вільнюскі беларускі мастак, асоба амаль легендарная. Апрача жывапісу вядомы сваімі востракрытычнымі вершамі. Нягледзячы на тое, што малюе ў асноўным краявіды, абапіраецца, як правіла, на сваю фантазію. Аматарам мастацтва ў Вільнюсе вядомы яго графічныя работы з відамі Вільнюса, а таксама касмічныя візарункі. Ён неблагі партрэтыст і аўтар кніжных ілюстрацый. З 1989 г. пастаянна бярэ ўдзел у выстаўках — як агульных, так і персанальных. Яго працы знаходзяцца ў прыватных зборах Польшчы, Германіі, ЗША, Францыі, Іспаніі, Расіі, Ізраіля, Аўстраліі, Швецыі, Нарвегіі і іншых краін. З 1996 г. з’яўляецца членам Саюза народных мастакоў Літвы.

Вершы пачаў пісаць у 1995 г. Зараз рыхтуецца да друку яго зборнік.

Бярэ актыўны ўдзел у грамадскім і культурным жыцці беларусаў Літвы. Узнагароджаны медалём Літоўскай Рэспублікі “Sausio 13-osios atminimo” (“У памяць аб 13 студзеня”).

***Валянцін Нідзянскі*** *(Вільнюс)*

## МАРГОЛІН ЮЛІЙ

***Марголін Юлій*** *(Іегуда) (псеўд. Аляксандр Галін; 14.10.1900, Пінск – 21.01.1971, Тэль-Авіў, Ізраіль), габрэйскі пісьменнік, палітычны дзеяч.*

Бацька, Барыс Марголін, быў лекарам. У 1925 г. Ю. Марголін скончыў Берлінскі універсітэт з дыпломам доктара філасофіі. У 1926 г. пераехаў у Польшчу, у 1936 г. — у Эрэц-Ізраэль. У 1939 г. наведаў сваіх бацькоў у Пінску, дзе яго і заспела вайна. Ю. Марголін быў арыштаваны савецкімі органамі і асуджаны на 5 гадоў турмы і год высылкі. У 1946 г. вярнуўся да сваёй сям'і ў Ізраіль, дзе пачаў пісаць "Падарожжа ў край зэ-ка" (на рускай мове) — па словах сябра Марголіна, пісьменніка Р. Гуля, "адну з лепшых кніг пра камуністычную катаргу". Кніга была перакладзена на нямецкую, французскую мовы. Выступаў перад Эканамічным саветам ААН у справе прымусовай працы ў СССР (1949). Супрацоўнічаў амаль з усімі рускамоўнымі выданнямі ў эміграцыі.

***Лявон Юрэвіч*** *(Нью-Йорк, ЗША)*



## САВІНАВА НІНА

***Савінава*** *(Міцук)* ***Ніна Рыгораўна*** *(25.06.1955, в. Лукава Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл.), рэжысёр масавых відовішчаў, вядучая беларускамоўнай праграмы "Бацькаўшчына" на Эстонскім радыё-4, прэзідэнт БКЦ "Бацькаўшчына".*

У 1972 г. Н. Савінава скончыла Лукаўскую сярэднюю школу і паступіла ў Гродзенскае культурна-асветнае вучылішча на аддзяленне народнага тэатра. Працягвала вучобу ў Мінску ў Інстытуце культуры па спецыяльнасці "Рэжысура масавых відовішчаў". З 1981 г. пастаянна пражывае ў Таліне. У 1989 г. стварыла беларускую суполку. У 1993 г. стала прэзідэнтам Беларускага культурнага цэнтра "Бацькаўшчына" ў Таліне. З 1997 г. Н. Савінава рыхтуе і вядзе гадзінную беларускамоўную праграму на Эстонскім радыё-4. Яна з'яўляецца рэжысёрам-пастаноўшчыкам традыцыйных святаў "Спатканне" і "Беларускае надвор'е", якія карыстаюцца вялікай папулярнасцю. У Беларускім культурным цэнтры "Бацькаўшчына" працуе нядзельная школа, у якой вывучаюць беларускую мову, знаёмяцца з гісторыяй краіны, яе фальклорам, з творчымі здабыткамі беларускіх пісьменнікаў.

Н. Савінава з'яўляецца членам Асацыяцыі народаў Эстоніі, пад эгідай якой адбываюцца традыцыйныя фестывалі нацыянальных культур "Славянскі вянок", выступае як рэжысёр гэтых фестываляў. Ёю створаны фальклорны гурт "Алеся" і дзіцячы танцавальны калектыў "Крыжачок", якія паспяхова выступаюць.

Грамадскую работу Н. Савінава спалучае з працай у АТ “Дарына–Н”, прэзідэнтам якога з’яўляецца. Н. Савінава таксама генеральны дырэктар Міжнароднага гандлёвага дома “Белрэсурсы–Эстонія”, створанага ў 1998 г. пры яе непасрэдным удзеле.

***Пятрусь Капчык*** *(Ізяслаў, Украіна)*

## ХМЯЛЕЎСКІ МІХАСЬ

***Хмялеўскі Міхась*** *(псеўд. Міхась Сваяк, крыпт. М. С., М. Х.; 26.06.1925, в. Паўднёвы Востраў Гродзенскага ваяв., цяпер Беластоцкага ваяв., Польшча), журналіст, беларускі грамадскі дзеяч.*

М. Хмялеўскі вучыўся ў Ленінградскім універсітэце. Пасля заканчэння (1953) працаваў журналістам у Люблінскай ваяводскай газеце “Sztandar Ludu” і “Gazecie Białostockiej”, з 1956 г. — органе Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы штотыднёвіку “Ніва”. Узначальваючы на грамадскіх пачатках ГП БГКТ (1963–1966, 1969–1972), а пазней Галоўную рэвізійную камісію таварыства, прымаў актыўны ўдзел у рабоце камісій Галоўнага праўлення па культуры і выдавецкіх справах. Працаваў у рэдкалегіях па выпуску беларускіх календароў. Асабіста М. Хмялеўскім падрыхтаваны календары на 1966 і 1983 гг. Спрыяў дзейнасці вясковых гурткоў БГКТ, развіццю беларускага школьніцтва ў Польшчы, дапамагаў у зборы экспанатаў для беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы.

У “Ніве” М. Хмялеўскі вёў старонку “Трыбуна чытачоў”. Лепшыя яго апавяданні і эсе склалі кнігу “І так бывала”, што пабачыла свет у Беластоку ў сувязі з 70-годдзем аўтара (1995). Фундатарам выдання стаў сын журналіста Юрка Хмялеўскі. М. Хмялеўскі цікава расказвае аб сапраўдных здарэннях, лёсах асобных людзей, аб злачынствах гітлераўскіх акупантаў на беларускай зямлі.

***Алесь Жалкоўскі*** *(Ліда)*

• • •

Рэдкалегія просіць прысылаць заўвагі і дапаўненні да матэрыялаў, якія друкуюцца пад рубрыкай “Беларускае замежжа”. У будучым яны ўвойдуць у даведнік *“Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў памежных краінах”*.

# IN MEMORIAM

## АЛЯКСАНДР ГЕЙШТАР

З Варшавы прыйшла сумная вестка: 9 лютага памёр выдатны польскі гісторык Аляксандр Гейштар, былы прэзідэнт Польскай акадэміі навук. Ён быў цесна звязаны з беларускай зямлёй і беларускай гісторыяй. Многія яго працы па старажытнай гісторыі Польшчы маюць самае непасрэднае дачыненне да вывучэння мінулага Літвы, Беларусі, Украіны.

Бліжэй мне пашчасціла пазнаёміцца з прафесарам Аляксандрам Гейштарам у жніўні 1991 г. Па даручэнню прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі Аляксандра Платонава, які якраз тады мусіў ад'ехаць у Расію, я сустракаў яго на беларуска-польскай мяжы, прысутнічаў на перамовах у Гродне, калі нестар польскай гістарычнай навукі перадаў для музея чарцяжы былога каралеўскага замка, зробленыя ў XVIII ст. (яны дужа прыдадуцца пры рэстаўрацыйных работах). Потым мы разам паехалі праз Навагрудак і Нясвіж у Пласковічы за Клецкам. У Гейштараў там быў раней маёнтачак. Сваякі жылі ў Пласковічах аж да Другой сусветнай вайны. І Аляксандру Гейштару вельмі рупіла "ў апошні раз", як ён прадбачліва казаў, глянуць на месцы, дзе прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады, распытаць старажылаў пра загадкавы лёс аднаго з родзічаў. Але выявілася, што ад ранейшых часоў засталася толькі капліца на могілках. Пласковічы зліліся з суседняй вёскай, а пастух, які нібыта адзін ведаў усіх Гейштараў, пагнаў каровы ў невядомым накірунку. Наш госць стаяў пахмурны каля плоту і, нягледзячы на нашы напаміны пра заказаную ў Стоўбцах вячэру, цвёрда рашыў: чакаць да вечара... Вясковыя жанчыны, якія сядзелі непадалёку на лавачцы, безумоўна ж, зацікавіліся намі. Найбольш смелая спытала:

— А каго гэта надчэкваеце? Той, сівы, у акулярах, мусіць, важны чыноўнік.

— Гэта Гейштар, вядомы польскі вучоны. Да вайны яго бацькі мелі тут маёнтачак.

— А, Гештары, Гейштары... Чаму ж не ведаць. Добрыя паны былі. То чаго ж будзеце чакаць таго пастуха на вуліцы. Заходзьце ў хату.

— Толькі каб пачаставаць, крамнага няма, — умяшалася другая. — Крама ў суседняй вёсцы.

— А можа, таму пану цікавей нашае. Можа, не забыў вясковае, пласковіцкае.

Праз якую хвіліну жанчыны сталі завіхацца. Хто нёс вяндліну, хто агуркі першага засолу, а хто і пляшку, даваенную па форме. Аляксандр Гейштар добра разумеў па-беларуску і катэгарычна запратэставаў, калі адна з жанчын пачала "польшчыць". Высветлілася, што тая хата, у якой мы выпадкова апынуліся, пабудавана якраз на фундаментах дома Гейштараў, а на панадворку захавалася іх сыраварня... Дзе застолле, там і песні. Госць, па словах яго памочніка, паводзіў сябе незвычайна бадзёра, "раскавана". Ад'ехалі мы з вёскі, дачакаўшыся пастуха, на змярканні. І ніякія Стоўбцы нам ужо былі непатрэбны.

Потым мы бачыліся яшчэ не раз: і ў мяне дома, і ў Варшаве на навуковых канферэнцыях, і ў Каралеўскім замку, калі там уручалі высокую ўзнагароду дабрадзею замка і сябру Аляксандра Гейштара Анджэю Цеханавецкаму з Лондана. Але заўсёды найперш згадваўся той вечар у Пласковічах, шчырая беларуская гасціннасць. Даведаўшыся, што мы ў Цэнтры імя Ф. Скарыны рыхтуем даведнік пра беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі ў замежжы, прафесар Гейштар, хоць сам нарадзіўся ў Маскве, паабяцаў прыслаць для будучага выдання аўтабіяграфію і фатаграфію, бо лічыў Беларусь зямлёй сваіх продкаў. Неўзабаве з Варшавы прыйшоў ліст. Даведаўшыся ад гісторыка Генадзя Сагановіча пра смерць вучонага, я адшукаў той ліст і тэкст яго цяпер прапаную чытачам "Кантактаў і дыялогаў".



"Гейштар Аляксандр, гісторык. Нарадзіўся 17.VII.1916. Сын Аляксандра, які паходзіў з Ізбішча пад Барысавам. З сям'і, якая з XVIII ст. асела ў Пласковічах пад Клецкам. Вучыўся ва універсітэтах Варшавы і Парыжа. У 1949–1986 прафесар сярэдневяковай гісторыі і дапаможных дысцыплін Варшаўскага універсітэта. У 1955–1975 быў там дырэктарам Інстытута гісторыі. Дырэктар Каралеўскага замка ў Варшаве ў 1986–1990. З 1972 правадзейны член Польскай акадэміі навук. У 1980–1983 і 1990–1993 — яе прэзідэнт. Доктар ганорыс каўза універсітэтаў Парыж-Сарбона, у Будапешце, Маскве, Оксфардзе, Познані. З 1956 член праўлення Міжнароднага камітэта гістарычных навук. Прафесар розных універсітэтаў, сябра навуковых таварыстваў Францыі, ЗША, Вялікабрытаніі, Швецыі, Украіны. Асноўныя публікацыі прысвечаны сярэдневяковай гісторыі, гісторыі культуры, гісторыі гарадоў. Найбольш поўная іх бібліяграфія змешчана ў памятнай кнізе "Сярэдневяковая і старапольская культура" (Варшава, 1991).

У 1992 узнагароджаны медалём Францыска Скарыны".

Да сказанага самім вучоным трэба дадаць, што хадайніцтва пра беларускую ўзнагароду было ўзбуджана камітэтам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Ад імя тагачаснага Вярхоўнага Савета ўзнагароду ўручыў (на канферэнцыі пад Варшавай) гісторык Алег Трусаў. Выступаючы ў адказ, Аляксандр Гейштар не мог не ўспомніць добрым словам і Пласковічы, і іх гасцінных жыхароў. Тады, у 1991-м, ён задуменна стаяў каля капліцы, каля надмагілля сваіх продкаў і нешта цяжка думаў, "прымерваўся" да тутэйшай зямлі. Потым парываўся пра гэта гаварыць. Ды хада гісторыі, якую ён так праніклва разумеў, не лічыцца з мроямі.

***Адам Мальдзіс***

# З ПОШТЫ РАЗДЗЕЛА

## У БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ ВАЛГАГРАДА

У Валгаградзе, у гістарычным музеі "Старая Сарэпта" створана ініцыятыўная група Нацыянальна-культурнага аб'яднання (Грамады) беларусаў горада і яго наваколля. У яе ўвайшлі Лілія Кліменка, Вітаўт Шэмет і аўтар гэтых радкоў. Мы ўжо ўстанавілі сувязі з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, таварыствам "Радзіма". Супрацоўнікі бібліятэкі перадалі для нас звыш 50 кніг і брашур па гісторыі і этнаграфіі. Рэгулярна прыходзіць да нас газета "Голас Радзімы".

У нашай вобласці пражывае каля 18 тысячаў беларусаў, у асноўным гараджан. На жаль, яны раз'яднаны. Агульнай бядой беларусаў, дарэчы, як і ўсіх славян на чужыне, з'яўляецца тое, што сярод блізкароднасных народаў мы хутка забываем сваю мову, традыцыі, звычаі і абрады продкаў, ператвараемся ў "рускамоўнае насельніцтва". На самой жа справе мы папаўняем рады касмапалітаў, гарадскіх абывацеляў, якія не маюць нічога агульнага з славянскай, вялікарускай, праваслаўнай культурай. Адмаўляецца само існаванне беларускай нацыі, яе самабытнасць. Між тым, на думку Л. Гумілёва, беларусы — адзін з самых старажытных, рэліктавых славянскіх этнасаў, які не змешваўся з іншымі этнасамі. Потым, згубіўшы сваю мову і літаратуру, яны хісталіся паміж суседнімі дзяржавамі, дорачы ім сваіх лепшых сыноў і губляючы сваё аблічча, сваю самабытнасць.

Тым не меней, пакінем палітыку дыпламатам і чыноўнікам, а самі зоймемся жывымі стасункамі з землякамі, вывучэннем мовы, літаратуры, гісторыі нашага народа.

***Віктар Мядзведзеў**, навуковы супрацоўнік музея "Старая Сарэпта"*

# З НАДРУКАВАНАГА

***Анджэй Альбрэхт — пра Адама Міцкевіча.***

"...можна было б толькі ўсцешыцца, калі б усе тры нацыі, якія імкнуцца зрабіць яго сваім, прызналі яго таксама сваім нацыянальным вешчуном. Польска-беларуска-літоўска-яўрэйскі паэт — якраз такой была калісьці і Польшча [Рэч Паспалітая! — *Рэд.*]. Думаю, што ён успрыняў бы такую "анэксію" з найвялікшым задавальненнем... Ён жадаў братэрства народаў, не быў антысемітам ці нацыяналістам. Усе чатыры нацыі, што з ім індэнтыфікуюцца, павінны пра гэта памятаць".

*"Культура" (Парыж). 1998. № 12. С. 157.*

***Павел Пшаціўэўскі — пра католікаў-беларусаў.***

"Беларуская рэчаіснасць адрозніваецца ад рускай ці ўкраінскай. З'яўляецца нібы адваротнай ў дачыненні да іх. На Украіне сялянскае польскае насельніцтва паддавалася ўкраінізацыі, у Беларусі ж беларускае насельніцтва паланізавалася. На Украіне сустракаем украінцаў-католікаў, якія з'яўляюцца па паходжанню палякамі, у Беларусі ж амаль усе людзі, якія лічацца палякамі, з'яўляюцца па паходжанню беларусамі".

*"Вензь" (Варшава). 1999. № 1. С. 139.*

## МАРЫЯН ПЕЦЮКЕВІЧ. У ПОШУКАХ ЗАЧАРАВАНЫХ СКАРБАЎ. ВІЛЬНЯ, 1998. 182 с.

Вільнюскім выдавецтвам Таварыства беларускай культуры "Рунь" апублікавана кніга ўспамінаў вучонага-этнографа, беларускага грамадскага дзеяча Марыяна Пецюкевіча "У пошуках зачараваных скарбаў". Гэтая першая з серыі запланаваных выдавецтвам кніг — яшчэ адна старонка ў выпакутаванай ранейшымі пакаленнямі гісторыі, споведзь чалавека пра сябе і сваіх незабыўных сяброў.




Заўсёды прыемна адкрываць для сябе нешта новае, але ўсведамляць, што вяртаецца ў памяць людскую забытае, а часам невядомае імя, — прыемна ўдвая. Марыян Пецюкевіч — асоба настолькі невядомая, што нават Уладзімір Караткевіч, вядомы "анамаст" (прыгадаем верш "Богваждаецца з беларускімі прозвішчамі"), не паверыў Адаму Мальдзісу, што ёсць беларускі дзеяч з такім прозвішчам. Лічыў, пэўна, што яно прыдумана, кіруючыся, відаць, развагаменнямі: "Быў там нейкі Ванька — стаў Ванькові́ч, // Быў там нейкі Міцька — стаў Міцкевіч". А "Пецюкевіч" — той ад каго?

Аўтар кнігі шчыра дзеліцца сваімі ўспамінамі, якія ён сам называе сціплымі "шматкамі даўно перажытага, бачанага, чутага й аналізаванага", і лічыць іх вельмі суб'ектыўнымі. Але для сённяшняга чытача гэтая "жменька" інфармацыі аб гісторыі жыцця віленчука і ягонай Бацькаўшчыны пачатку XX ст. выклікае безумоўную цікавасць, бо ў дадатак да іншых гістарычных крыніц тут далучаецца жывы голас 20–30 гг. — нават цэлы хор галасоў, бо са старонак кнігі паўстае галерэя партрэтаў людзей, што стваралі гісторыю Віленшчыны, дзе "спляліся культуры нашых народаў, як карані літоўскіх і беларускіх дрэў на мяжы, […] як плынь беларускіх і літоўскіх рэк".

У прадмове да кнігі, напісанай нядаўна адышоўшым ад нас Лявонам Луцкевічам, гаворыцца, што імёны заслужаных віленчукоў 20–30-х гг. звязаны пераважна з такімі ўстановамі, як Віленская беларуская гімназія, Віленскі універсітэт, Беларускі музей імя І. Луцкевіча. Гэтая кніга — шчыры, кранальны аповяд

## • Беларусь – Украіна

**Гібок-Гібкоўскі Алесь.** “Белоруссия родная, Украина золотая…”: У Крыме сустракаліся Прэзідэнты Беларусі і Украіны // Беларусь. 1998. № 12. 2-я с. вокл.

**Уюн Г. А.** Адлюстраванне марфалагічнага асваення галіцызмаў у беларускіх мастацкіх тэкстах // Святло сакавіцкага слова: Навук. выданне да 60-х угодкаў праф. Галіны Мікалаеўны Малажай. Брэст, 1998. С. 242–248.

**Biłowus Bolesław**. Polacy we Lwowie: Towarzystwo Kultury Polskiej Ziemi Lwowskiej: [Інт.] / Rozm. Tatiana Zaleska // Głos znad Niemna. 1999. 7 stycz.

## • Беларусь – Францыя

**Аляксандр Талстой**: “У гісторыі важна правільна вызначыць кропку адліку”: [Гутарка Наталлі Цімашук з франц. вучоным і дыпламатам] // Голас Радзімы. 1998. 31 снеж.

**Ахрашумов С**. История Бастилии / Подг. П. Гудовича // Падарожнік. 1998. № 8. С. 10–12.

**Барвенава Ганна.** У сховах забытага гардэроба: [Пра гісторыю касцюма, напісаную французам Альберам Расінэ] // Мастацтва. 1999. № 1. С. 62–65.

**Мальцева Т. А.** К вопросу о категории числа существительных французского происхождения в белорусском языке // Беларуская мова ў другой палове XX стагоддзя. Мн., 1998. С. 190–192.

**Ле Руа Люсиль, Жанэн Пьер.** Письма к незнакомке: [Пра перапіску Гі дэ Мапасана з Марыяй Башкірцавай] / Пер. И. Найденкова // Всемир. лит. 1999. № 1. С. 161–167.

## • Беларусь – Чэхія

**Вострикова Е. В.** Поэтика романов Милана Кундеры / Автореф. дисс. ... канд. филол. наук. Минск, 1998.

**Глыбоўскі Ільля.** Прага чэская й беларуская // Проста разам. 1998. № 2. Лістап. С. 5.

## • Беларусь – Швейцарыя

**Дзюрэнмат Фрыдрых.** Аварыя / Пер. з ням. Васіля Сёмухі // Крыніца. 1998. № 11. С. 81–102.

**Родэвальд Стэфан.** У Цюрыху пра Полацк: [Інт.] // Бел. гіст. агляд. 1998. Т. 5. Чэрв. Сш. 1 (8). С. 205–209.

## • Беларусь – Югаславія

**Архім. Юсцін (Попавіч).** Пра дух часу // Праваслаўе: Сербская праваслаўная царква / Укл., падр., пер. Івана Чароты. 1998. № 6. С. 51–56.

**Архім. Юсцін (Попавіч).** Праваслаўнае хрысціянства сербскага стылю і вопыту // Праваслаўе. 1998. № 6. С. 47–50.

**Доктар Марка С. Маркавіч.** За саюз праваслаўных народаў: Зварот да праваслаўных цэркваў і народаў // Праваслаўе. 1998. № 6. С. 72–76.

**Еп. Атанасіе (Еўціч).** Апафатычнае і катафатычнае багаслоўе // Праваслаўе. 1998. № 6. С. 29–36.

**Еп. Нікалай (Веліміравіч).** Усё ў знаку крыжа і свабоды // Праваслаўе. 1998. № 6. С. 37–46.

**Мітр. Чарнагорска-Прыморскі і Скендарыйскі доктар Амфілохіе (Радавіч).** Хлеб дзеля жыцця свету, альбо Новае віно ў мяхі новыя // Праваслаўе. 1998. № 6. С. 22–28.

**Небойша М.** Крсціч. Секты — злаякасныя пухліны на целе распятага сербства // Праваслаўе. 1998. № 6. С. 70–71.

**Патрыярх Павел (Стойчавіч).** Пытанні і адказы // Праваслаўе. 1998. № 6. С. 10–21.

**Прэдраг Р. Драгіч Кіюк.** Хрысціянства без Хрыста // Праваслаўе. 1998. № 6. С. 57–69.

## • Беларусь – Японія

**Буйко Т. М.** Японская філасофія бесперапыннай адукацыі: ад ідэалу да практыкі // Адукацыя і выхаванне. 1998. № 12. С. 81–83.

## ВЕНГРЫЯ

**Аляхновіч Мікалай**. Сэнсава-структурная інтэнсіфікацыя ў працэсе адфразеалагічнага словаўтварэння // Nyelv, Stilus, Irodalom: Köszöntö könyv Péter Mihály 70. születésnapjára. Budapest, 1998. 14–19 old.

**Мароз Валянціна**. Да пытання сучаснага беларускага кнігадруку // Nyelv, Stilus, Irodalom: Köszöntö könyv Péter Mihály 70. születésnapjára. Budapest, 1998. 375–388 old.

**András Zoltán**. Körösi Csoma Sándor szlavisztikai tanulmányairól // Nyelv, Stilus, Irodalom: Köszöntö könyv Péter Mihály 70. születésnapjára. Budapest, 1998. 620–624 old.

## ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ

**Belarus** leader offers the lure of a Soviet-style solution: Stefan Wagstyl on lectures for Russia's government from the authoritarian ruler of a land where Lenin is still honoured // Financial Times. 1998. Oct. 22.

**Kobrzycka Tatiana** (Minsk)**.** New Light on Lesya Ukrainka and Serhiy Merzhynskyi: [Пра ўзаемаадносіны ўкраінскай паэтэсы і мінскага рэвалюцыянера] // The Ukrainian Review. 1998. Vol. 45. No 3. P. 79–87.

**Lukashuk Alexander**. Widening Cracks in the Wall: Belarus's leading writer evokes the plight of his nation // Transitions. 1998. Vol. 5. No. 10. P. 84–86.

**[Sidorowicz Alexander]**. Churchgoers to offer sick children a lifeline: [Пра дапамогу бел. дзецям] // Advertiser. 1998. Oct. 1.

**Siedlar-Kołyszko Teresa.** Od Smoleńska po Dzikie Pola: Polacy na ziemiach I i II Rzeczypospolitej: [Уключаны рэпартажы з Беларусі]. Londyn, 1998.

**Taylor Nina**. Źródła mickiewiczowskich "Dziadów": [Пра беларускі абрад у інтэрпрэтацыі былой жыхаркі Вязынкі Алімпіі Свяневіч] // Tydzień Polski. 1998. 24, 31 paźdz.

**Z kresów** wschodnich RP [у тым ліку тэрыторыі Беларусі]: Wspomnienia z osad wojskowych 1921–1940. Wyd. II, powiększone. Londyn, 1998.

## ГЕРМАНІЯ

**Alltagsgeschichte** der unteren Schichten im russischer Reich (1861–1914): kommentierte Bibliographie zeitgenössischer Titel und Bericht über die Forschung / Angela Rustemeyer und Diana Siebert. Stuttgart, 1997. (Quellen und Studien zur Geschichte des ostlichen Europa; Bd. 46).

**Bauet Häuser** und wohnet darin: Spuren Jüdischen Lebens in Mittel- und Osteuropa / János Kalmár; Elvira Grözinger. Frankfurt am Main, 1996.

**Chiari Bernhard.** Alltag hinter der Front: Besetzung, Kollaboration und Widerstand in Weißrußland 1941–1944. Düsseldorf, 1998.

**Moser Michael.** Die polnische, ukrainische und weißrussische Interferenzschicht im russischen Satzbau des 16. und 17. Jahrunderts. Frankfurt am Main; Berlin; Bern; New York; Paris; Wien, 1998.

## ЗША

**Аўраменка Васіль.** Вехі і прарэхі, або Чатыры пытанні да беларуса // Бел. дайджэст. 1999. № 1. Студз. С. 1.

**Бандарук Канстанцін а.** Адзінае на патрэбу. Ню Ёрк, 1998.

**Весткі** й Паведамленьні ню ёркскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. 1998. 21 снеж.; 1999. 20 студз., 3 лют.

**Еп. Арцемій, Матрунчык Мікола.** Беларускай праваслаўнай царкве Сьв. Юр'я ў Чыкага — 40 гадоў: [Інт.] / Зап. В. Нікіфаровіч // Бел. дайджэст. 1999. № 1. Студз. С. 8.

**Завістовіч Расьціслаў.** Беларусь абрабаваная // Бел. дайджэст. 1999. № 1. Студз. С. 2.

**Л. Ю.** [Юрэвіч Л.]. Малавядомая Натальля Арсеньнева: (Са збораў Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лёндане) // Беларус. 1998. № 459. Снеж. С. 5.

**Левин Владимир.** Василь Быков и стена, которую не прошибешь // Интересная газета – Голос Русской Америки. 1998. 14–20 февр.

**Лыч Леанід.** За што нас любяць у Расіі // Бел. дайджэст. 1999. № 1. Студз. С. 5–6.

**Нікіфаровіч Ванкарэм.** "Многія персанажы — гэта я сам…": На выставе маладога мастака Анатоля Упарта ў Першай Беларускай галерэі // Бел. дайджэст. 1999. № 1. Студз. С. 6.

**Царкоўны пасланец** (Сомерсет). 1998. № 2. Каляды.

**Юрэвіч Л.** Янка Юхнавец // Беларус. 1998. № 459. Снеж. С. 5.

**Camhi Leslie**. Reconsidering the Legacy of an Enigmatic Painter: Chaim Soutine's Disturbing Visual Feast: [Пра ўраджэнца Смілавіч ля Мінска] // Forward. 1998. Apr. 24.

**Gay Ruth.** Unfinished people: Eastern Europe Jews encounter America. W. W. Norton, 1996.

**Goble Paul**. Replacing Skrunda: Moscow Finds Funds // Belarusian Review. 1998. Vol. 10. No. 4. P. 10.

**Goujon Alexandra**. Belarusian Statehood and Lukashenka's Politics // Belarusian Review. 1998. Vol. 10. No. 4. P. 7–9.

**Katz Dovid**. Restoring Buildings and a Culture, Too: Belarussian Christians Lovingly Resurrect Artifacts, Language: [Пра габрэйскую літаратуру ў Беларусі, М. Кульбаку] // Forward. 1998. June. 12.

**Katz Dovid**. Struggling for Home in Mior: Pair Persists, But Sewage Rots Their Cabin: [З "Беларускага дзённіка"] // Forward. 1998. May. 8.

**Katz Dovid**. Wordsmith Recalled Years After Gulag: [Пра Ізі Харыка і яго ўдаву] // Forward. 1998. March. 6.

**Marples David R**. Belarus: Facing a Tempestuous Year in 1999 // Belarusian Review. 1998. Vol. 10. No. 4. P. 10–12.

**Mashchenko Svetlana**. First Graduates Leave European Humanitarian University (EHU) // Belarusian Review. 1998. Vol. 10. No. 4. P. 14.

**Preston Mary**. Canadian Humanitarian Aid Shipment to Belarus // Belarusian Review. 1998. Vol. 10. No. 4. P. 16.

**Republic** of Belarus: crushing civil society. New York; London, 1997.

**Wines Michel.** Boss of Belarus pursues dream of reviving Soviet Union // Бел. дайджэст. 1999. № 1. Студз. С. 3.

**Zaprudnik Jan**. Political Parties in Belarus: An Overview // Belarusian Review. 1998. Vol. 10. No. 4. P. 2–6.

## ІЗРАІЛЬ

**Lukin Benjamin**. New Guides to Jewish Documents: [Рэц. на кн.: Sallis Doris, Webb Marek. Jewish Documentary Sources in Russia, Ukraine and Belarus: A Preliminary List. New York, 1996] // Jews in Eastern Europe. 1998. No. 2. P. 80–81.

## КАНАДА

**Каардынацыйны камітэт** беларусаў Канады: Камунікат. 1998. № 8; 1999. № 1.

## ЛАТВІЯ

**Беларусь** шануе памяць Адама Міцкевіча // Латгалес лайкс (Даўгаўпілс). 1999. 12 янв.

**Буры Мікола.** Годы змагання за адзінства: [Інт. з беларускім дзеячам ў Латвіі] / Зап. Л. Шакавец // Прамень. 1998. № 11. Кастр. – лістап. С. 4.

**Валодзька С.** Добрае святло настаўніка і паэта [Міколы Талеркі] // Латгалес лайкс (Даўгаўпілс). 1999. 12 янв.

**Валодзька Станіслаў.** Пры хаце, пры сваёй сядзібе: [Інт. з кіраўніком даўгаўпілскага "Уздыму"] / Зап. Л. Шакавец // Прамень. 1998. № 11. Кастр. – лістап. С. 4.

**Володько С.** Добрый свет поэта и просветителя: 18 декабря исполнилось 100 лет со дня рождения белорусского поэта и просветителя Николая Талерко // Динабург (Даугавпилс). 1998. 22 дек.

**Відаўскі Аляксей.** "Мы з Віцебскам два гарады на адной рацэ!": [Інт. з мэрам Даўгаўпілса] / Зап. Л. Шакавец // Прамень. 1998. № 11. Кастр. – лістап. С. 3.

**Поспех** на вентспілскай сцэне [беларускага ансамбля "Надзея"] // Прамень. 1998. № 11. Кастр. – лістап. С. 5.

**Смірнова С.** Неразлучны беларус і песня // Прамень. 1998. № 11. Кастр. – лістап. С. 5.

**Целеш Вячка.** Хто дапаможа ў захаванні беларускай дыяспары? // Прамень. 1998. № 11. Кастр. – лістап. С. 6.

## ЛІТВА

**Аблажэй Алег.** Ліст да рэдактара газэты "Литовский курьер", які вельмі любіць беларускага прэзыдэнта // Рунь. 1999. 13 студз.

**Война Галіна, Акула Кастусь.** Гімназія ў апошнія гады: [Пра Віленскую беларускую гімназію 1939–1944 гг.] // Рунь. 1999. 13 студз.

**Жакевіч Зьбігнеў.** Слова пра духовае раздваеньне [польскага пісьменніка, чыё дзяцінства звязана з "крэсамі"] // Рунь. 1999. 13 студз.

**Жамойцін Янка.** Сьлядамі "жыцьцёвых хваляў" Віктара Ярмалковіча // Рунь. 1999. 13 студз.

**Луцкевіч Лявон.** Віленская Беларуская Гімназія // Рунь. 1999. 13 студз.

**Piročkinas Arnoldas**. Adomui Mickevičiui — 200: Dél Adomo Mickevičiaus priklausomybés: [Пра нацыянальную прыналежнасць ураджэнца Навагрудчыны] // Voruta. 1999. Nr 2. P. 5, 7.

## ПОЛЬШЧА

**Барскі Алесь** [Баршчэўскі А.]. "Наша Ніва" і ўсходняя Беласточчына // Ніва. 1999. 10, 24 студз.

**Ваўранюк Мікола.** Дзяржава клапоціцца пра светліцовых: [Рэц. на кн.: Mniejszości narodowe w Polsce: Państwo i społeczeństwo polskie a mniejszości narodowe w okresach przełomów politycznych (1944–1989). Warszawa, 1998] // Ніва. 1999. 31 студз.

**Выстрал** у патыліцу Тарашкевічу: [Прамова ў польскім Сейме ў 1924 г.] // Czasopis. 1999. Nr 1. S. 28–31.

**Вярбіцкі Аляксандр.** Узнікае музей рэлігійнага мастацтва: Пра планы заснавання музея ікон у Супраслі расказвае Анджэй Лехоўскі, дырэктар Акруговага музея ў Беластоку // Ніва. 1999. 3 студз.

**Гаўрылюк Андрэй.** Ці польская культура запалоніць Беларусь? // Ніва. 1999. 24 студз.

**Глагоўская Лена.** Віктар Швед у Гданьску… // Ніва. 1999. 10 студз.

**Кандрацюк Ганна.** Беларускія пейзажы па-польску: [Пра конкурс штомесячніка "Czasopis"] // Ніва. 1999. 3 студз.

**Кандрацюк Ганна.** Яму прадказвалі бліскучую будучыню: [Пра кампазітара з Саколкі на Беласточчыне Яна Тарасевіча] // Ніва. 1999. 10 студз.

**Корчак-Міхалеўскі Сэрафін.** Мінулае і будучыня Брэста // Ніва. 1999. 10 студз.

**Корчак-Міхалеўскі Сэрафін.** Экуменія і правапіс // Ніва. 1999. 31 студз.

**Максімюк Ян.** Упарадкавалі тарашкевіцу: [Пра канферэнцыю ў Празе па пытаннях правапісу] // Ніва. 1999. 3 студз.

**Мароз Аляксей.** Ліцэісты на раённых элімінацыях // Ніва. 1999. 31 студз.

**Мароз Аляксей.** Стыль Алега Кабзара [мастака з Беласточчыны] // Ніва. 1999. 3 студз.

**Мароз Аляксей.** Сустрэчы ў Музеі [у Гайнаўцы] // Ніва. 1999. 24 студз.

**Марчук Георгій.** Клопат — беларуская кніга: [Гутарка з дырэктарам мінскага выдавецтва "Мастацкая літаратура"] / Зап. Міры Лукшы // Ніва. 1999. 17 студз.

**Масальскі Канстанцін.** Каліноўскі і нацыянальная ідэя // Ніва. 1999. 17 студз.

**Мірановіч Антон.** Супрацоўніцтва з Польскай акадэміяй умеласцей у Кракаве пачалося пяць гадоў таму: Ведаюць нашых: [Размова з супрацоўнікам Інстытута гісторыі універсітэта ў Беластоку] / Зап. Ады Чачугі // Ніва. 1999. 24 студз.

**Мірановіч Яўген.** Беларуская незалежніцкая партыя: [Рэц. на кн.: Ёрш С. Вяртанне БНП: Асобы і дакументы Беларускай незалежніцкай партыі. Слонім; Мн., 1998] // Ніва. 1999. 10 студз.

**Трацяк Янка.** Да разгадкі аднаго псеўданіма: [Даказваецца, што псеўданім Васіль Горны належаў Францішку Грышкевічу] // Ніва. 1999. 31 студз.

**Харужы Вячаслаў**. Адраджэнец: [Пра Антона Луцкевіча] // Czasopis. 1999. Nr 1. S. 27.

**Чачуга Ада.** Навагодні спектакль у тэатры: ["Антыгона" Сафокла ў Беластоку] // Ніва. 1999. 31 студз.

**Чачуга Ада.** Нататкі з падарожжа па Іспаніі: Андора // Ніва. 1999. 10 студз.

**Чыгрын Сяргей.** "Цябе, мая думка, Радзіма прытуліць…": (Згадка пра трагічны жыццёвы лёс беларускага літаратара Тодара Лебяды) // Ніва. 1999. 17, 24 студз.

**Якімюк Марк.** Угодкі "Братчыка": Размова з галоўным рэдактарам праваслаўнага выдавецтва "Братчыкі" Маркам Якімюком / Гут. Аляксей Мароз // Ніва. 1999. 3 студз.

**Яновіч Сакрат.** Не жаль пражытага // Czasopis. 1999. Nr 1. S. 22–23.

**Bitel-Dobrzyńska Nadzieja**. Wspomnienia świniopaski: [Пра заходнебеларускую вёску] // Czasopis. 1999. Nr 1. S. 20–22.

**Chałupczak Henryk, Browarek Tomasz.** Mniejszości narodowe w Polsce: 1918–1995. Lublin. 1998. [Раздзел "Białorusini", с. 95–121].

**Iwaniuk S**. Materiały do dziejów Polski okresu międzywojennego w zbiorach Państwowego Archiwum Obwodu Brzeskiego // Białostocczyna. 1997. Nr. 27. S. 68–70.

**Janowicz Sokrat**. Bycie sobą // Czasopis. 1999. Nr 1. S. 5–6.

**Jasiewicz Krzysztof.** Zagłada polskich kresów: Ziemiaństwo polskie na Kresach Północno-Wschodnich Rzeczypospolitej w latach 1939–1941. Warszawa, 1998.

**Kabzińska I**. O kulturze polskiej nacji, kulturze narodowej i możliwościach ich transmisji (na przykładze Polaków z Białorusi): Uwagi wstępne // Etnografia Polska. 1996. Z. 1/2. S. 209–227.

**Kłoczowski Jerzy.** Mickiewicz — dziedzic kultury Rzeczypospolitej wielu narodów [у тым ліку і беларускага] // Więź. 1999. Nr 1. S. 65–74.

**Korpowski Marek A**. Polacy w Lidzie, czyli Trwanie na posterunku // Nowe Kontrasty. 1999. Nr. 1. S. 11–13.

**Lembowicz Tadeusz**. Pieniądze Giedroycia [для Беларускага ліцэя ў Бельску] // Nowe Kontrasty. 1999. Nr. 1. S. 30.

**Szachowicz Michał**. Jechała koleda koladujuczy // Czasopis. 1999. Nr 1. S. 17–19.

**Winnicki Zdzisław J**. "Puszcza Wojskiego": [Пра Налібоцкую пушчу і партызанскія дзеянні ў ёй у 1943–1944 гг.] // Dziennik Polski. 1998. 4 listop.

## РАСІЯ • Расійская Федэрацыя

**Адамович С.** Коммунисты… в сутанах: [Пра касцёл св. Кароля Барамэуша ў Пінску, помнік архітэктуры XVII ст.] // Труд. 1998. 27 февр. – 5 марта.

**Алексеев Л. В.** Археология средневекового периода в Белоруссии (1950–1990 гг.) // Рос. археология. 1998. № 3. С. 176–190.

**Белорусская лирика** XIX–XX веков в переводах Геннадия Римского. М., 1998.

**Белорусы** / Отв. ред. В. К. Бондарчик, Р. А. Григорьева, М. Ф. Пилипенко. М., 1998. (Народы и культуры).

**Болбас В. С.** (Мозырь). Наука добронравия Симеона Полоцкого // Педагогика. 1998. № 5. С. 86–91.

**[Быкаў В.].** Прелесть и ужас будущего: На анкету "МН" отвечает писатель Василь Быков / Подг. Валерий Суси // Московские новости. 1999. 7–14 февр.

**Быков В.** Бедные люди; Труба: Рассказы / Пер. с бел. В. Жиженки и авт. // Дружба народов. 1998. № 8. С. 62–86.

**Денисов В.** Спят под асфальтом герои: [Аб праблеме захавання Мінскіх ваен. брац. магілак, дзе пахаваны воіны Першай сусветнай вайны] // Труд. 1998. 13–19 февр.

**Егорова Ольга**. "Умереть я хочу в Беларуси, а лежать в Глуше": 26 января — 5 лет со дня смерти Алеся Адамовича // Лит. газ. 1999. 27 янв.

**Жильников А. В.** (Гомель). Неделя географии в школе // География в шк. 1998. № 4. С. 76–78.

**Заборов Б.** Эскиз портрета на фоне времени: [Гутарка з бел. мастаком Б. Заборавым] / Зап. И. Халип // Культура. 1997. 14 авг.

**Илькевич Николай**. Максим Горецкий и Янка Купала: Контакты со Смоленской губернской учёной архивной комиссией. 1918 год // Годы (Смоленск). 1999. № 1. С. 78–86

**Кадол Ф. В.** (Гомель). О достоинстве и чести: (Из бесед о нравственности) // Открытая шк. 1998. № 4. С. 28–33.

**Котлярчук А. С.** Праздничная культура в городах России и Белоруссии 17 века: Официальные церемонии и праздничная обрядность / Автореф. дисс. ... канд. ист. наук. СПб, 1999.

**Крепак Б.** Цвет времени: [Пра творчасць нар. мастака Беларусі Л. Шчамялёва: Да 75-годдзя] // Труд. 1998. 6–12 февр.

**Ксёндза О. Г.** (Минск). Диагностика и коррекция взаимоотношений воспитателя и дошкольников в детском саду // Тенденции осуществления педагогического процесса в учебно-воспитательных комплексах в свете концепции непрерывного образования: (Материалы Междунар. науч.-практ. конф., Смоленск, 14–15 нояб. 1995 г.). Смоленск, 1996. С. 65–69.

**Лабынцев Ю. А.** Литературное наследие В. В. Богдановича — белорусского сенатора II Речи Посполитой // Славяноведение. 1997. № 3. С. 39–49.

**Лабынцев Ю. А., Щавинская Л. Л.** Научно-исследовательская экспедиция 1996 года "Книжная культура православной Польши" и ее итоги // Славяноведение. 1998. № 4. С. 83–90.

**Малкова В. С.** (Барановичи). Модульно-рейтинговая оценка знаний // Специалист. 1998. № 6. С. 3–4.

**Наша библиография**: "Край Смоленский" о Беларуси // Край Смоленский. 1998. № 7–8. С. 89–96.

**Орлова Т.** Редкий случай — знаменитый танцевальный коллектив "Хорошки" дает концерт в Минске // Комсом. правда. 1998. 20–27 февр.

**Пионтковский Андрей**. У нашей власти беловежский комплекс Белоруссии // Новая газ. 1999. 18–24 янв.

**Рево О.** Гербы городов Полоцкой и Витебской губерний Российской империи // Наука и жизнь. 1998. № 7. С. 83–85.

**Рогалев А. Ф.** (Гомель). "А радимичи и вятичи от ляхов…": К интерпретации летописной легенды // Рус. речь. 1998. № 4. С. 70–75.

**Ройтман Ю.** Друзья, сябры, друзі: [Пра V Міжнар. фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы", 14–17 мая 1998 г., Гомель] // Театр. жизнь. 1998. № 5–6. С. 57–62.

**[Свиридова А.].** Алена Свиридова нашла розового фламинго в американском посольстве: Известная певица, уроженка Беларуси, объясняет, почему у нее в жизни не было легких романов // Комсом. правда. 1998. 30 янв. – 6 февр.

**Свистунова О.** Разноцветная ярмарка: [Да вынікаў VI Міжнар. фестывалю мастацтваў "Славянскі базар", Віцебск] // Культура. 1997. 7 авг.

**Федута Александр**. Между пепси и квасом: Белорусская молодежь выбирает национализм // Москов. новости. 1999. 24–31 янв.

**Этнические** и региональные конфликты в Евразии: Россия, Украина, Белоруссия: (Сб. ст.: В 3 кн.) / Общ. ред. А. Зверева и др. М., 1997. Кн. 2.

### • Марый-Эл

**"А я на жалейке** тихонько играю...": [Пра паэтэсу, ураджэнку Беларусі Ніну Жыбрык; друкуюцца яе вершы] // Марийская правда. 1998. 25 марта.

## УКРАІНА

**Завальнюк К. В.** Українсько-білоруські торговельні зв'язки (XIX ст.): Автореф. дис… канд. істор. наук. Київ, 1998.

**Макареев М. В., Богоявленская З. П.** (Сост.). А. И. Казарский [ураджэнец Беларусі]: (Сборник документов и материалов под общей редакцией контр-адмирала С. С. Рыбака). Севастополь, 1998.

**Нагорна Тетяна.** Білоруське слово вільне у Львові // Поступ. 1998. 18 груд.

## ФРАНЦЫЯ

**Gomonova Olga**. Alena Vnoucova et sa Marilyn Monroe: [Пра спектакль бел. Маладзёжнага тэатра] // Perspectives biélorussiennes. 1998. Nr 12. P. 9.

**Goujon Alexandra**. L'Union du XXIéme siécle // Perspectives biélorussiennes. 1998. Nr 12. P. 1.

**Goujon Alexandra, Symaniec Virginie**. L'opposition biélorussienne á Paris // Perspectives biélorussiennes. 1998. Nr 12. P. 3.

**Janowicz Sokrat.** "Pan Tadeusz" po raz czwarty [у перакладзе на бел. мову Пятра Бітэля] // Kultura. 1999. Nr 1–2. S. 217–219.

**Lepesant Gilles**. L'évolution de la souveraineté biélorussienne: scénarios // Foucher Michel (dir.). Transitions géopolitiques sur le continent européen: Mutations dans l'sisthem mer baltique-mer Noire. Paris, 1998. P. 47–72.

**Symaniec Virginie**. La Supplication de Svetlana Alexievitch: [Пра чарнобыльскую тэматыку ў творчасці пісьменніцы] // Perspectives biélorussiennes. 1998. Nr 12. P. 10–11.

## У РЭДАКЦЫЮ БЮЛЕТЭНЯ ПАСТУПІЛІ:

**БАЧ:** Беларускае альтэрнатыўнае чытанне [Шчэцін, Польшча]. 1998. № 2. Лістап.

**Бюлетэнь** беларускіх няўрадавых арганізацый. 1999. № 1.

**Бюллетень** Центра гендерных исследований. 1998. № 2.

**Голас** беларуса. 1999. № 3. Студз.

**Дзеружынскі Авяр'ян.** Вернасць: Вершы. Мн., 1998.

**Дыялог:** Культурна-рэлігійны часопіс (Баранавічы). 1999. № 1, 2, 3.

**Жук Ігар.** Сустрэчны рух: Літаратуразнаўчыя эцюды. Гродна, 1998.

**Іванова С. Ф., Іваноў Я. Я., Мячкоўская Н. Б.** Сацыякультурная прастора мовы. Мн., 1998.

**Колас Георгій.** Карані міфаў: Жыццё і творчасць Янкі Купалы. Мн., 1998.

**Лупачоў В. Р., Рагаўцоў В. І.** Руска-беларускі слоўнік па машынабудаванні. Мн., 1998.

**Матэрыялы** Кірыла-Мяфодзіеўскіх чытанняў, прысвечаных Міжнароднаму дню славянскага пісьменства і культуры. Мн., 1998.

**Полацкая ініцыятыва.** 1998. № 2. Жн. – кастр.

**Права** на волю. 1998. № 23, 24.

**Проста** разам. 1998. № 2. Лістап.

**Святло** сакавіцкага слова: Навуковае выданне да 60-х угодкаў праф. Галіны Мікалаеўны Малажай. Брэст, 1998.

**Супрун Васіль.** Незабыўныя "ксівы": (Вершы з падпольнай канцлагернай перапіскі з Ларысай Геніюш). Гародня, 1998.

**Тележников В. И., Тихомиров А. В., Шаврук И. В., Евменова Т. Л.** Представительная демократия в Беларуси; Международные парламентские организации. Минск, 1998.

**Фрагмэнты.** 1998. № 2–3. Лета.

**Целеш Вячка** [Рыга]. Гарады Беларусі на старых паштоўках. Мн., 1998.

**Центры** плюрализма: Информационный бюллетень (Варшава). 1998. № 6.

**Чалавек.** Этнас. Тэрыторыя. Праблемы развіцця Заходняга рэгіёна Беларусі: Матэрыялы Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Брэст, 1998. Ч. 1, 2.

**Fedecki Ziemowit.** Цёплыя вечары... ды халодныя ранкі. Czyli to śpiewano w Feliksowie. Warszawa, 1992. [З аўтографам аўтара].

**Internationale** Politik. 1999. Nr 1.

**Kultura:** Беларускі нумар. Mińsk. 1998. Nr 1.

**United Way-News** = Объединенный путь – Беларусь. 1998. № 36. Нояб.; № 37. Дек.

**Wiadomości Gródeckie** = Haradockija Nawiny. 1999. Nr 1–2.
*Да нумара далучаны зборнік вершаў М. Арла "Лірнік".*

**Więż.** 1999. Nr 1, 2.

## УДАКЛАДНЕННЕ

У кнізе "480 год беларускага кнігадрукавання (Беларусіка=Albaruthenica–9)" у артыкуле Л. Доўнар "Праблемы мінскай кнігі XIX ст." на с. 233 фразу "віцебскія [2], гродзенскія [3], магілёўскія [4], нясвіжскія [5] і полацкія кнігі" неабходна чытаць як "віцебскія —1, гродзенскія —10, магілёўскія — 21, нясвіжскія — 2 і полацкія — 2 кнігі"; у спасылцы 8 год "1807" як "1708".

# АСНОЎНЫЯ ПАМЯТНЫЯ ДАТЫ 1999 ГОДА

***9 лютага.*** 480 гадоў з дня выхаду ў Празе (1519) “Книги Иудифъ вдовици”, перакладзенай Ф. Скарынам.

***14 лютага.*** 200 гадоў з дня нараджэння Валенція Ваньковіча (1799–1842), беларускага і польскага жывапісца.

***27 сакавіка.*** 500 гадоў з часу надання гораду Мінску магдэбургскага права.

***7 красавіка.*** 80 гадоў таму рашэннем Народнага камісарыята РСФСР аднавіў дзейнасць Горы-Горацкі сельскагаспадарчы інстытут (заснаваны ў 1840 г., цяпер — Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія).

***1 мая.*** 30 гадоў таму ў Гомелі заснаваны універсітэт на аснове педагагічнага інстытута (з 1988 г. — Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Францыска Скарыны).

***5 мая.*** 180 гадоў з дня нараджэння Станіслава Манюшкі (1819–1872), беларускага і польскага кампазітара, дырыжора і педагога, ураджэнца Міншчыны.

***12 мая.*** 45 гадоў таму (1954) БССР прынята ў ЮНЕСКО.

***15 мая.*** 20 гадоў з дня адкрыцця Музея старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

***6 чэрвеня.*** 200 гадоў з дня нараджэння класіка рускай літаратуры Аляксандра Пушкіна, які аказаў вялікае ўздзеянне на беларускую літаратуру.

***1 ліпеня.*** 430 гадоў Люблінскай уніі (1569) — аб’яднанню на аснове роўнасці Польскага каралеўства (Карона) і Вялікага Княства Літоўскага (Княства) у федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую.

***31 ліпеня.*** 350 гадоў таму (1649) адбылася бітва пад Лоевам паміж аб’яднаным казацкім атрадам на чале з Міхайлам Крычаўскім і войскам Вялікага Княства Літоўскага.

***2 жніўня.*** 450 год з дня нараджэння Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі, пісьменніка, падарожніка, грамадскага дзеяча.

***12 жніўня.*** 600 гадоў таму (1399) адбылася бітва на р. Ворскла, у час якой загінуў князь Андрэй Полацкі.

***28 жніўня.*** 250 год з дня нараджэння класіка нямецкай літаратуры Іагана Вольфганга Гётэ, чые творы, у тым ліку “Фаўст”, перакладзены на беларускую мову.

***17 верасня.*** 60 гадоў таму пачаўся паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну.

***29 верасня.*** 470 гадоў (1529) першаму Статуту Вялікага Княства Літоўскага.

***10 кастрычніка.*** 60 гадоў таму падпісаны дагавор паміж СССР і Літвой. Літве перададзена большая палова Віленскага ваяводства і г. Вільня.

***15 кастрычніка.*** 70 гадоў таму створаны Інстытут гісторыі Беларускай акадэміі навук.

***Кастрычнік.*** 10 гадоў таму ўтвораны Беларускі экзархат — Беларуская праваслаўная царква.

***10 лістапада.*** 250 гадоў з дня нараджэння Мацея Радзівіла (1749–1800), дзяржаўнага дзеяча ВКЛ, драматурга, кампазітара, удзельніка паўстання 1794 г.

***15 снежня.*** 480 гадоў з дня выхаду ў Празе (1519) “Книги судей еже от еврей называются Шофътимъ”, перакладзенай Ф. Скарынам.

## МАГУТНАСЦЬ МОЖА ПРЫДАЦЬ ТОЛЬКІ РУХ

Моц нашай апоры на традыцыю, якая безумоўна акрэсліваецца ў рэчышчы беларускай культуры, залежыць як ад духоўнай сілы самой традыцыі, так і ад адчування і разумення намі гэтай сілы. Як нацыю ўздымае (ці ўздыме) духоўнасць, так і Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны найбольш спраўдзіць сваё прызначэнне, актыўна спрыяючы духоўнай кансалідацыі беларускага грамадства.

Духоўнасць нясе перад усім вера, рэлігія — у сваім ідэальным варыянце, як Царква Нябесная. Нельга разглядаць праблемы духоўнасці, не кранаючы хрысціянскай тэматыкі, хрысціянства, якое мела і мае вялікае значэнне ў гістарычным лёсе беларусаў не толькі ў аспекце рэгіянальна-дэмаграфічным, але і культурным, духоўным, светапоглядным, дапамагае зменшыць праявы бездухоўнасці, бязвер'я, захаплення масавай культурай, з'яўляецца спосабам духоўнага і сацыяльнага яднання людзей, узвышае асобу чалавека, накіроўвае яго на рэалізацыю сваіх лепшых здольнасцей і перакананняў.

Навуковы аналіз рэлігійнага жыцця асабліва складаны для Беларусі з яе поліканфесійнасцю. Скарынаўскі цэнтр у свой час узяў на сябе ініцыятыву культуралагічнага даследавання рэлігіі; у 1994–1998 гг. аўтарскім калектывам пад кіраўніцтвам вядомага філосафа Уладзіміра Конана падрыхтавана даследаванне “Рэлігія і культура: Анталогія рэлігійнай думкі ў Беларусі”.

Святло Красы, Дабра, Праўды нясе і асвета, якая ўдасканальвае асобнага чалавека і грамадства ў цэлым, забяспечвае пэўны ўзровень адукаванасці і самасвядомасці, спрыяе гарманізацыі эмацыянальнага стану грамадства, міжкультурнаму і міжасабоваму дыялогу і г. д. Зусім натуральна, што менавіта Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны сёння стаў галаўной арганізацыяй па выкананню міжвузаўскай праграмы фундаментальных даследаванняў “Беларускае асветніцтва: Традыцыі, сучасны стан і пошук будучыні” (кіраўнік — кандыдат філалагічных навук Іван Саверчанка).

Абуджаючы духоўны голад у чалавеку, у народзе, будучы накіраваным на выхаванне рэлігійнай талерантнасці, несучы спакой і мір, асветніцтва па сваёй сутнасці не можа быць ізаляваным ад хрысціянства, якое фактычна адыграла велізарную ролю ў фарміраванні беларускага шматканфесійнага культурна-гістарычнага тыпу. З другога боку, хрысціянству як Царкве Зямной, як сацыяльнаму інстытуту не абысціся без асветнай дзейнасці, якая выяўляецца праз душпастырства, экуменізм, накірункі гуманітарна-харытатыўны, выдавецкі, культурна-мастацкі, адукацыйны і г. д. Непарыўнасць духоўнасці, хрысціянства і асветы вельмі добра разумеў Францыск Скарына, вялікі мысліцель, які ўдала спалучыў свецкае і біблейска-рэлігійнае асветніцтва і традыцыі якога мы абавязаны падтрымліваць і развіваць.

Аб'яднаць людзей для вырашэння праблем духоўнасці і культуры якраз і павінен навукова-практычны семінар “Рэлігія і асвета: традыцыі і сучасныя праблемы”, які будзе сістэматычна праводзіцца ў Нацыянальным цэнтры Скарыны і які мэтай мае выпрацоўку практычных рэкамендацый для ўстаноў, найперш дзяржаўных, што так ці інакш займаюцца асветніцтвам (міністэрстваў, ведамстваў, адукацыйных устаноў,

бібліятэк, музеяў і г. д.). Навукова-практычныя вынікі семінара могуць быць выкарыстаны ці нават пакладзены ў аснову адпаведных дзяржаўных праграм.

У першым, устаноўча-арганізацыйным пасяджэнні семінара, якое адбылося 17 лютага, прынялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры, Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей, некаторых пасольстваў, навукоўцы, выкладчыкі, святары. Задачай гэтай сустрэчы было вызначэнне асобных канкрэтных тэм, якія варта абмеркаваць на наступных пасяджэннях.

У сваім кампетэнтным выступленні доктар Уладзімір Конан падкрэсліў, што сёння менавіта рэлігія ставіць у цэнтр увагі маральны абсалют, агульначалавечыя каштоўнасці і духоўную культуру. На нашых вачах адбываецца супярэчлівая пераарыентацыя атэістычнага светапогляду на рэлігійнае. Між тым у Беларусі праблема рэлігіі і этна-культурнай самаідэнтыфікацыі мае даўнюю традыцыю. Зрэшты, не толькі ў Беларусі святары заўсёды былі лепшымі настаўнікамі. Паводле меркавання вучонага, сутнасць аддзялення Царквы ад дзяржавы палягае не на ўзаемнай ізаляцыі, але ў няўдзеле святароў у палітыцы, што цалкам зразумела. Разам з гэтым Царква не можа быць адлучана ад грамадства, ад чалавека з яго духоўна-культурнымі патрэбамі.

На мой погляд, свецкая свядомасць павінна насычацца і ўзбагачацца хрысціянскімі прынцыпамі, мараллю, а надзённыя “свецкія” праблемы пэўным чынам вырашацца ў духоўна-рэлігійным жыцці, тады Бог будзе Жывым.

Я цалкам салідарная з маім папярэднікам па кіраўніцтву Цэнтрам доктарам Адамам Мальдзісам, які, выступаючы, іерархію прыярытэтаў вызначыў наступным чынам: Духоўнасць – Беларусь – Скарынаўскі цэнтр – Сям’я – Я.

***Любоў Уладыкоўская-Канаплянік**, дырэктар Цэнтра імя Ф. Скарыны*

## “ПОМНІК МІНУЛАГА — ПАДМУРАК БУДУЧЫНІ” НА ШЛЯХУ Ў 135 ГАДОЎ

Гісторыя чалавецтва ўпэўнівае, што кожны народ на зямлі са сваёй культурай, мовай, — гэта агульнасусветная каштоўнасць, якую неабходна захоўваць і перадаваць у спадчыну наступнікам. Такая пераемнасць сведчыць пра жыццёвую сілу, вартасць, самаўсведамленне нацыі, разуменне сваёй значнасці, што прыходзіць разам з жаданнем быць роўным сярод роўных. Менавіта гэта імкненне прывяло славакаў да ўтварэння ўплывовай грамадскай арганізацыі, якой нядаўна споўнілася 135 гадоў. Яе назва ўвасабляе нацыянальную ідэю ў развіцці і самасцвярджэнні славянскіх народаў — Маціца славацкая. Шматлікія маціцы — чэшская, харвацкая, лужыцкая, славенская (усяго іх было 12) — сталі ўтварацца з 1831 г. Назоўнік у складзе назвы, сербскага паходжання, абазначае крыніцу, ачаг, вулей, пчаліную матку, што вельмі дакладна перадае сутнасць і плён дзейнасці такіх суполак, прызваных аб’яднаць і захаваць свае народы.

Маціца славацкая ўзнікла ў год паўстання на Беларусі Кастуся Каліноўскага. Яе з’яўленнем, як азначае супрацоўнік архіва Маціцы М. Эліяш, завяршылася шматгадовае шчыраванне народных дзеячаў па стварэнню ўсеславацкай народнай культурнай арганізацыі. Яна стала сімвалам славацкага народа і яго прысутнасці на зямлі, што адмаўлялі афіцыйныя ўлады Аўстра-Венгрыі.

Маціца здолела злучыць славакаў, раздзеленых веравызнаннем. Яна ўтварыла першае навуковае аб’яднанне, стала выдаваць першы навуковы часопіс, адчыніла

першы славацкі музей, заклала Народную бібліятэку і архіў. У цэнтр гэтага руху, горад Марцін, з усяго свету сталі прыязджаць людзі, каб пазнаёміцца з этнаграфіяй, гісторыяй, культурай самабытнага народа.

Нацыянальны рух славакаў меў сваіх адукаваных ідэолагаў. Яны выступалі за ўласную дзяржаўнасць, у чым бачылі абавязковую ступень развіцця, імкнучыся зберагчы свой народ для чалавецтва. На гэтым нялёгкім шляху ў 1843 г. важны крок зрабіў Людавіт Штур — ён кадыфікаваў славацкую мову, якую прынялі ўсе славакі. Маціца працягвала моўнае аб'яднанне — клапацілася пра выданне кніг на роднай мове, адчыніла тры гімназіі са славацкай мовай навучання, па ўсёй Славакіі стварала мастацкія суполкі, распаўсюджвала ў свеце звесткі пра Славакію і славакаў.

І сёння Маціца славацкая застаецца самай уплывовай арганізацыяй. Яна мае дзяржаўную падтрымку, разгалінаваную сетку мясцовых філіялаў па ўсёй краіне і дыяспарах. Яе агульнапрызнаным цэнтрам, як і раней, з'яўляецца горад Марцін, дзе ўзвышаецца сучасны будынак мацічных службаў, клапатліва захоўваецца першы, двухпавярховы, будынак як сведчанне яе слаўнай шматгадовай і далёка не бясхмарнай гісторыі.

Асаблівым зместам напоўнілася дзейнасць арганізацыі пасля атрымання суверэнітэту Славацкай дзяржавай, гісторыя якой налічыла ўжо шэсць гадоў. Вялікае значэнне надае Маціца рэалізацыі ў грамадстве закона аб мовах, паводле якога славацкая мова набыла статус дзяржаўнай, у кожным з адміністратыўных цэнтраў арганізавана моўная служба, ёсць афіцыйная асоба, што дапамагае ўвядзенню закона і сочыць за яго выкананнем. Трывалыя сувязі Маціцы з навукоўцамі, якія не толькі развіваюць інтэлектуальны патэнцыял краіны, але і папулярызуюць актуальныя лінгвістычныя веды, тлумачаць і аналізуюць моўныя праблемы. Напрыклад, мне ўдалося быць сведкай зацікаўленага абмеркавання з настаўнікамі праблем культуры мовы прафесарам Янам Дорулем, кіраўніком Славістычнага кабінета пры Славацкай акадэміі навук, і супрацоўнікамі гэтай установы Эленай Красноўскай і Штэфанам Ліптакам. Менавіта Славістычны кабінет наладзіў трывалыя сувязі з Беларуссю.

Напрыклад, нашы філолагі ўдзельнічалі ў Міжнародных канферэнцыях, прысвечаных славісту Паўлу Шафарыку (Прэшаў, 1995), перакладам Бібліі на славянскія мовы (Браціслава, 1996). Часопіс "Культура слова" змясціў артыкул "Культура беларускага слова" аўтара гэтай публікацыі і яе сумесны артыкул з віцэ-старшынёй Маціцы славацкай Прэшаўскай акругі Л. Бартко "Удакладненне правілаў транслітарацыі кірыліцы з беларускай мовы на славацкую". Ужо трэці год беларускую мову вывучаюць студэнты філасофскага факультэта Прэшаўскага універсітэта, а сёлета едзе асвойваць славацкую мову студэнт Белдзяржуніверсітэта.

Маціца з'яўляецца адной з заснавальніц і фундатараў аўтарытэтнага міжнароднага семінара па славацкай мове і культуры — Studia Academia Slovaca (SAS). Ён працуе пры універсітэце Я.-А. Каменскага ў Браціславе і ўжо 34 гады займаецца адукацыяй замежных грамадзян і сваёй дыяспары.

1998 год быў знамянальны для краіны тым, што ён аб'яўлены Сусветным годам славакаў, да чаго непасрэднае дачыненне мае Маціца, вядомая сваім асветніцкім плёнам, сваёй мацярынскай падтрымкай моладзі. У мінулым годзе пад эгідай арганізацыі трэці раз сабраўся Мацічны сусветны фестываль — у краіне між Татрамі і Дунаем, горныя краявіды якой увасобіліся на дзяржаўным гербе і сцягу, на эмблеме Маціцы славацкай у выглядзе трох вяршынь з узнесеным на іх крыжам.

Народнае ўзыходжанне на адну з вяршынь, татранскі пік Крывань — сімвал славакаў — ажыццявілі ўдзельнікі фестывалю, паўтарыўшы шлях Людавіта Штура і яго

паплечнікаў. “Такім чынам яны сімвалізавалі мару ўсяго славацкага народа дасягнуць вяршыні народнай самабытнасці, свабоды і незалежнасці” — раскрыў глыбокі сэнс падзеі ў сваім выступленні на вяршыні Крывань сакратар Маціцы славацкай Міраслаў Белік.

Такую ж мэту меў і фестываль, які сабраў 2 тысячы ўдзельнікаў з 17 краін свету, пераважна моладзь. Узыходжанне на Крывань стала заключнай падзеяй у разнастайнай праграме, яе дзесяць дзён былі насычаны выступленнямі фальклорных гуртоў, тэатральных і танцавальных калектываў, сустрэчамі з супрацоўнікамі тыднёвіка “Славацкія народныя навіны”, заснаваным у 1845 г. Людавітам Штурам. Гучалі літаратурныя кампазіцыі, дэманстраваліся кінафільмы, ладзіліся спартыўныя спаборніцтвы. Кожны дзень меў свой дэвіз: “Вітаем у Славакіі”; “Славакія і славацкі свет прысутнасці”; “Мацічная нядзеля”; “Дзень маладых мацічараў”; “Мемарыяльны дзень Маціцы славацкай”; “Дзень славакаў з Амерыкі”; “Дзень славакаў з Еўропы”; “Славацкі свет і яго будучыня”; “Дзень успамінаў” і нарэшце “Дзень звароту Маціцы славацкай” да ўсіх людзей добрай волі. З вяршыні Крываня прагучалі словы, прачулыя славакамі за сваю нялёгкую гісторыю, што нарэшце прывяла іх да сваёй самастойнай дзяржавы: “Пошук і раскрыццё каштоўнасцей у кожным народзе, якія здольны весці яго далей, — гэта надзея і гарантыя для Еўропы і ўсяго свету на ўстанаўленне чалавечага брацтва…”



*Першы будынак Маціцы славацкай у Марціне*

Мацічны сусветны фестываль славацкай моладзі, што бярэ пачатак ад 1980 г. і які першае дзесяцігоддзе праводзіўся за межамі этнічнай радзімы яго ўдзельнікаў, старшыня Маціцы славацкай Йозеф Маркуш называе фестывалем славацкай будучыні, вызначаючы як аснову грамадскага жыцця — вернасць матчынай мове. Менавіта праз гэта “будзе расці здольнасць Славакіі і славацкага грамадства быць сусветным, але адначасова заставацца самім сабой”. Упэўненасць старшыні Маціцы падзялілі ў сваіх прывітальных словах Старшыня Народнай Рады Славацкай Рэспублікі Іван Гашпаравіч, міністр культуры Іван Гудзец. Старшыня Сусветнага кангрэса славакаў Павал Руснак адзначыў несумненны плён супрацоўніцтва з Маціцай у правядзенні фестывалю, эстафету якога бярэ Таронта (Канада). А шлях даўжынёй у 135 гадоў працягваецца, бо наперадзе новыя дасягненні і наступныя ўгодкі, да іх ляжаць гады самаадданай працы — дзеля будучыні, падмурак якой упэўнена будуе Маціца славацкая — разам са сваім народам, у супрацоўніцтве і садружнасці з народамі іншых краін.

***Вікторыя Ляшук**, кандыдат філалагічных навук*

***Ад рэдакцыі.*** Гэты артыкул мы змяшчаем (з невялікім спазненнем, за што просім прабачэння ў аўтара) з асаблівай зацікаўленасцю, бо Маціца славацкая, як і Цэнтр імя Кірыла і Мяфодзія ў Балгарыі, з’яўляюцца ўзорам для Цэнтра імя Ф. Скарыны.

## ДАРАГІЯ БЕЛАРУСІСТЫ АМЕРЫКІ!

Як большасць з Вас ведае, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў (МАБ) была створана ў 1991 г., каб садзейнічаць супрацоўніцтву і дыялогу вучоных, якія цікавяцца беларускай мовай, літаратурай, гісторыяй, грамадствам і культурай і жадаюць узмацніць разуменне Беларусі як сярод акадэмічнай садружнасці, так і шырокай публікі. Пад эгідай МАБ і дзеля ажыццяўлення яе мэтаў былі створаны нацыянальныя і рэгіянальныя асацыяцыі ў паасобных краінах — Польшчы, Расіі, Чэхіі, Венгрыі, Францыі, Вялікабрытаніі, дзе беларусісты праявілі значную актыўнасць. Аднак ЗША, Паўночная Амерыка, наколькі мне вядома, заставаліся ў цэлым пасіўнымі (мне невядома пра існаванне асобнай канадскай асацыяцыі). У мяне ёсць падазрэнні, што гэта тлумачыцца адсутнасцю значных намаганняў, каб стварыць прывабны імідж МАБ на нашым кантыненце. У сувязі з тым, што ў апошнія гады ва ўсім свеце ўзрастае навуковая і грамадская цікавасць да Беларусі, наспеў, па майму меркаванню, час актывізаваць дзеянні асацыяцыі.

У адпаведнасці з “Даведнікам сяброў Амерыканскай асацыяцыі для правядзення славянскіх даследванняў (AAASS)” у нас налічваецца прыкладна сто навукоўцаў, студэнтаў і асацыяваных сяброў, якія ўказалі беларусістыку як сваю першую ці другую спецыялізацыю (дарэчы, гэты спіс не ўключае многіх відных беларусістаў Паўночнай Амерыкі, якія не з’яўляюцца сябрамі AAASS). І што цікава, большасць указаных у “Даведніку” беларусістаў, мяркуючы па прозвішчах, не з’яўляюцца беларусамі. Вядома, сярод тых ста асоб ёсць і некаторыя русісты, якія лічаць сябе спецыялістамі па ўсіх пытаннях, звязаных з Усходам і славянствам, і не маюць нейкай спецыяльнай адукацыі ў сферы беларусістыкі. Аднак, тым не менш, знамянальны ўжо той факт, што гэтыя асобы пажадалі ўказаць беларусістыку як сферу сваіх інтарэсаў. Наяўнасць указанага навуковага патэнцыялу сведчыць, што дзейнасць МАБ у ЗША і Канадзе павінна стаць больш актыўнай.

Па майму меркаванню, найбольш актуальнай справай паўночнаамерыканскіх беларусістаў павінна стаць правядзенне супольнай (ЗША, Канада) канферэнцыі. Улічваючы значныя фінансавыя затраты, патрэбныя для такога мерапрыемства, я прапанаваў бы спачатку арганізаваць больш сціплы “круглы стол” ці арганізацыйную сустрэчу — напрыклад, у час наступнай канферэнцыі AAASS у Сэн-Луі 18–21 лістапада 1999 г., каб там спланаваць стратэгію атрымання сродкаў з дзяржаўных і прыватных крыніц, абмеркаваць іншыя праблемы, звязаныя з пашырэннем уплыву МАБ на амерыканскім кантыненце.

У сувязі са сказаным я прапаную стварыць Паўночнаамерыканскую асацыяцыю беларусістаў, парытэтна звязаную з AAASS (падобна аналагічным асацыяцыям па ўкраінскіх, харвацкіх, балгарскіх, польскіх, славацкіх, албанскіх, славенскіх і г. д. даследаваннях. Далучальны статус гарантаваў бы, што мы зможам праводзіць рэгулярныя сустрэчы ў рамках штогодных канферэнцый AAASS, у якой многа нашых патэнцыяльных сяброў. Гэта дазволіла б нам уключаць хроніку паўночнаамерыканскага беларусазнаўчага жыцця ў бюлетэнь AAASS “Newsnet”. У будучым жа магчыма стварэнне ўласнага бюлетэня.

Аднак, каб правесці арганізацыйную сустрэчу ў Сэн-Луі, мы павінны быць упэўнены, што набярэцца хаця б 20–30 патэнцыяльных сяброў. Я пашлю падобнае паведамленне асобам, якія ўказалі на сваю цікавасць да беларусазнаўства ў “Даведні-

ку" AAASS, і заклікаю пашырыць такія звесткі сярод Вашых сяброў і калег у ЗША і Канадзе. Калі будуць станоўчыя адказы, я накірую ўсю інфармацыю віцэ-прэзідэнту МАБ доктару Вітаўту Кіпелю, які жыве ў ЗША, з прапановай, каб мы працягнулі намаганні па арганізацыі сустрэчы ў Сэн-Луі.

***Курт Вулхайзэр** (ЗША). Атрымана па электроннай пошце: EMail: cfwoolhiser@mail.utexas.edu*

## УШАНУЕМ ПАМЯЦЬ РАДЗІВІЛА СІРОТКІ

2 жніўня 1999 г. спаўняецца 450 год з дня нараджэння князя Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі (12.07.1549–28.02.1616), дзяржаўнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага, падарожніка, пісьменніка-мемуарыста, заснавальніка геаграфічнай літаратуры на беларуска-літоўскіх землях. Усё яго жыццё звязана з Нясвіжам, дзе ён нарадзіўся і памёр. Радзівіла Сіротку па праву называюць "будаўніком Нясвіжа": замест драўлянага замка ён пакінуў тут мураваны палацава-паркавы комплекс. Узвёў у горадзе шэраг шэдэўраў архітэктуры: езуіцкі, бенедыктынскі і дамініканскі касцёлы і кляштары. Дзеля ўсяго гэтага сюды быў запрошаны славуты італьянскі дойлід Ян Марыя Бернардоні. Пры Радзівіле Сіротку Нясвіж атрымаў магдэбургскае права і герб.

Адзін з найбольш значных прадстаўнікоў роду Радзівілаў вядомы таксама тым, што ён адбыў паломніцтва ў Святую Зямлю, падарожнічаў па Еўропе, Азіі і Афрыцы, а потым дакладна і вобразна апісаў сваё падарожжа ў "Перэгрынацыі", якая чытаецца і перавыдаецца да сённяшняга дня.

Улічваючы ўсё гэта, прапаную правесці 2 жніўня 1999 г. у Нясвіжы навуковую канферэнцыю або "круглы стол". Мэтазгодна, каб усе даклады ці выступленні былі заказнымі (каля дзесяці). Прыкладная тэматыка можа быць такая:

• Мікалай Крыштоф Радзівіл як дзяржаўны дзеяч; • Мікалай Крыштоф Радзівіл як падарожнік і літаратар; • Стварэнне архітэктурных помнікаў Нясвіжа ў XVI ст.; • Нясвіж у другой палове XVI – пачатку XVII ст.

Сярод дакладчыкаў і ў складзе Аргкамітэта безумоўна павінен быць прафесар Збігнеў Вуйцік, які працуе ў Музеі зямлі ў Варшаве.

Са свайго боку прапаную ўдзел у арганізацыі канферэнцыі і даклад "Падарожжа да Святых месцаў у Егіпет князя Мікалая Крыштофа Радзівіла" як помнік геаграфічнай літаратуры XVI ст."

***Віталь Ярмоленка**, прафесар БДУ, акадэмік Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў*

***Ад рэдакцыі.*** Горача падтрымліваем гэту прапанову.

## ХТО АЎТАР?

Ад маладых гадоў, праведзеных у Беларусі, засталіся ў памяці радкі:

Дзень залаты, цёплым сонцам заліты,
Лётаў матыль сізакрылы над жытам,
Лётаў як сон над калоссямі нізка,
Якперазвон над малога калыскай.

Слёзы мігцяць ад тугі і бяссілля:
Хоча дзіця матыліныя крыллі.

Маці-жняя пацяшае малога:
Доля твая сніць яшчэ на дарогах.

Дай вось дажну паласу-сіраціну
І раскажу пра палёт матыліны...
Будзеш і ты, сынку, лётаць высока!
Дай зараблю ж вось на хлеб табе, сокал!..

Але хто аўтар іх — не ведаю. Можа, хто з чытачоў "Кантактаў і дыялогаў" дапаможа мне ўстанавіць яго прозвішча?

***Чэслаў Сэнюх** (Варшава)*

# CONTENTS



Падпісана ў друк **15.03.1999**. Папера **афсетная**. Друк **афсетны**.
Фармат **60х90 1/16**. Умоўн. друк. арк. **4**. Ул.-выд. арк. **5,3**.
Тыраж **299 экз**. Заказ **№ 32**.
Надрукавана з дыяпазітываў рэдакцыі **ТАА "Юніпол"**.
Ліцэнзія ЛП № 210 ад 5.01.98 г.   220039, г. Мінск, вул. Караткевіча, 6.

Погляды аўтараў могуць не супадаць з поглядамі сяброў рэдкалегіі.
Правапіс аўтараў, якія карыстаюцца тарашкевіцай,
рэдакцыя мусіць падаваць паводле сучаснага беларускага правапісу.
Для паскарэння работы над артыкуламі просім прысылаць
іх па E-mail ці на дыскетах (пажадана ў фармаце MS Word 2.0-7.0)